# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1974
Красавік-Травень-Чэрвень
Год XXII
№ 2 (140)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1974 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. U. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12, азначае North , а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXII** **April—May—June 1974** **№ 2 (140)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE.,
LONDON, N. 12, 8 HY., ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXII КРАСАВІК—ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ № 2 (140)

# Апостальскае павучаньне аб Найсьвяцейшай Дзеве Марыі Маці Божай

22 сакавіка г. г. было агалошанна павучаньне Айца Сьвятога Папы Паўла VI аб кульце Божай Маці. Гэты вялікай важнасьці дакумант мае тры часткі:

1) Культ Багародзіцы ў адноўленай Літургіі лацінскага абраду;

2) Падаюцца некаторыя дырэктывы, каб аднавіць марыйную пабожнасьць;

3) Павучаньні, як адгаворываць ражанец і «Анельскае Прывітаньне».

Тут падаецца скарочана галоўны зьмест Апостальскага Павучаньня. Яно сапраўды здавольвае патрэбы, якія сяньня адчуваюцца ў Царкве, бо зьвяртае ўвагу на адказную ролю жанчыны і ёсьць пратэстам супроць цесных адносінаў да жанчыны, для якой дагэтуль вызначалася абмеженая роля ў жыцьці.

«Сучасная жанчына — кажа Павучаньне — жадае прымаць удзел у рашучых справах і ў выбары адпаведнага грамадзкага жыцьця; таму ў Марыі яна знайдзе прыклад такой жанчыны, якая ў дыялёгу з Богам, ахвяроўвае свабодна і дзейна сваю згоду не для якойсь выпадковай праблемы, але для здарэньня першараднага значэньня: — згаджаецца стаць Маткай Божага Слова. Той факт, што Марыя сталася Маткай для ўсіх, ёсьць запраўдным жэртва-прынашэньнем дзейнасьці жанчыны».

Узяўшы пад увагу тое месца, якое Марыя займае ў літургічным кульце, трэба сказаць, што яна наагул ёсьць найвышэйшым прыкладам у Царкве.

Марыя ведала, як прыняць Божае Слова. Акт веры, зь якім яна прыняла Божага пасланца ў хвіліну Зьвеставаньня, ёсьць пачаткам у яе стане жанчыны-маткі. Гэта таксама ёсьць і пачаткам Царквы, якая павінна перш услухацца ў Божае Слова, каб пасьля абвяшчаць Яго ўсім людзям. Падобна як Марыя, якая прыняла і «разважала ў сваім сэрцы» першыя тайны Хрыста, так і Царква распазнае знакі часу, іх тлумачыць і перажывае здарэньні гісторыі.

Марыя таксама дае прыклад малітвы: Апостальскія Дзеі паказваюць нам у простым расказе Марыю сярод грамады, якая чакае Духа Сьвятога, астаючыся ў малітве разам з першымі вучнямі свайго Сына.

Нарэшце Марыя дае прыклад ахвярыжэртвы. І тут трэба зьвярнуць увагу на значэньне важнай ролі жанчыны: Марыя была першай прыносячы жэртву адкупленьня, Ісуса, ад той хвіліны, калі ахвяравала Яго ў сьвятыні. Ейная жэртва маткі загадзя папярэдзіла жэртву крыжа; а трыццаць гадоў пасьля, на Кальварыі спалучыла сваю ахвяру з неабмежанай вартасьці ахвярай свайго Сына, Збаўцы людзкага роду. Дань, якую Марыя ўлажыла ў дзела адкупленьня, апраўдвае тую вялікую чэсьць, якую мы Ёй аддаём. Гэта ня толькі не перашкаджае аддаванай чэсьці Госпаду Хрысту, але дзеля таго, што марыйныя набажэнствы абяртаюцца акурат ля Хрыста як ля цэнтрум, усьцяж прыпамінаць нам аб Хрысьце, вядуць да Яго і лучаць нас зь Ім.

У марыйным кульце Царква таксама не забывае пра ролю Духа Сьвятога, аб чым магчыма ў прошлым і не гаварылася дастаткова.

Сяньня моцна зьвьяртаецца ўвага на г. зв. экумэнічны рух. Вось-жа Апостальскае Павучаньне падкрэсьлівае, каб і тут унікаць усялякага перасолу і не зыходзіць з праўдзівага каталіцкага шляху ў аддаваньні чэсьці Божай Маці. Другі Ватыканскі Сабор зьвяртаў на гэта ўвагу: «Няхай багасловы і прапаведнікі сочуць вельмі ўважна за тым, каб не было якоенебудзь слова, каторае ўводзіла-б у памылку аддзеленых ад нас братоў адносна праўдзівай навукі Царквы».

Зьвяртаецца таксама ўвага і на тое, каб сапраўдная хрысьціянская пабожнасьць да

Марыі апіралася на Біблії і на гістарычна праверaных фактах. Тут варта ізноў прыпомніць навуку ўспомненага ўжо Сабору: «Праўдзівае набажэнства да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі не апіраецца на пачуцьці і пустой даверлівасьці. Крыніцай яго ёсьць сапраўдная вера, якая вядзе нас да сыноўскай любові Маці і да насьледваньня Яе цнотаў».

У лацінскім абрадзе — ведамыя і сярод каталікоў на Беларусі — малітвы ёсьць: ражанец і «Анельскае Прывітаньне». Яны не належаць да сьцісла літургічных малітваў, але вельмі прыгожыя і зьмястоўныя, таму Папа ў апостальскім павучаньні заахвочвае вернікаў да адгаварваньня іх. Часы аднак зьмяняюцца і было-б неразумным цьвердзіць, што ня можна ўводзіць у чэсьць Багародзіцы новых малітваў. Наадварот, Царква заахвочвае духавенства і вернікаў тварыць новыя формы марыйнага набажэнства.

Як Хрыстос заўсёды той самы і заўсёды Чалавек Новы, так побач Яго і Марыя — Жанчына Новая. Для сучаснага чалавека, кіданага хвалямі на розныя берагі і змучанага, Дзева Марыя праз свой прыклад супакою і стойкасьці, дапаможа перанесьці безнадзейнасьць; дапаможа да перамогі веры ў Бога праз заслугі Госпада Хрыста і Яго Непавінна Зачатай Маці Марыі.

Няхай-жа, Матачка Божая, Матачка Добрая выслухае нашы мольбы:

Прывітана будзь, Марыя,
Поўная ласкі, Госпад с Табою,
Багаслаўлена Ты між жанчынаў
І багаслаўлены плод улоньня Твайго, Ісус.
Сьвятая Марыя, Маці Божая,
Маліся за нас грэшных,
Цяпер і ў часіну сьмерці нашай. Аман.

---

*а. Т. Падзява*

# Добрая навіна

## БОГ АБ'ЯЎЛЯЕ СВАЮ ВЕЛІЧ І БАГАЦЬЦЕ СВАЕЙ ПРЫРОДЫ Ў СВАІХ ТВОРАХ

### ІХ-ая КАТЭХЭЗА

Бесканечна багаты і шчасьлівы Бог ёсьць адначасна бесканечна добрым. Дабрата пабуджае Яго тварыць Анёлаў і людзей, каб дзяліцца зь імі сваім шчасьцем. Таму дае ім розум, каб маглі Яго пазнаць і палюбіць, бо толькі ў гэтым яны могуць знайсьці тое самае шчасьце, якое і Богу хапае на ўсю вечнасьць. Аднак паміж Богам і ягонымі стварэньнямі існуе цэлае прадоньне, так што стварэньне ня можа пазнаць Бога так, як Ён пазнае Сам Сябе. Убачыўшы Бога, чалавек ужо ня мог бы адарвацца ад Яго, ня мог бы ня любіць Яго і тады ўжо чалавек ня сам дабравольна прымаў бы шчасьце, але Бог накідаў бы яму і прымушаў бы стаць шчасьлівым. Вось жа Бог гэтага ня хоча. Бог хацеў, каб чалавек выбраў шчасьце бяз прымусу і толькі пасьля свабоднага выбару атрымаў яго ад Божае ўсёмагутнасьці як узнагароду. Толькі гэткае шчасьце будзе самым вялікім, якое толькі Бог можа даць свайму стварэньню. Таму Бог і творыць бачны сусьвет, каб у ім паказаць Сябе чалавеку спосабам здавальняючым, каб чалавек даведаўся аб Богу ўсяго, што яму патрэбна ведаць і адначасна аставаўся свабодным прыняць або не прыняць тое шчасьце, якое Бог суліць яму.

Кожная створаная рэч ёсьць якбы адбіцьцём таго, чым ёсьць Бог і таму яны пераважна нам падабаюцца. Аднак мы ня можам знайсьці на сьвеце поўнага шчасьця, бо нашая натура створаная так, што толькі Бог можа нас цалкам ашчасьлівіць. А чалавек з усіх стварэньняў найбольш падобны да Бога, — таму найбольшую радасьць можам знайсьці любячы чалавека. Аднак чалавек зьмяняецца, старэе і ў канцы памірае. Толькі адзін Бог ніколі ня зьмяняецца, не старэе і не памірае. Таму Яго толькі і варта пазнаваць і любіць, дык калі мы ў гэтым знайдзем сваё шчасьце, дык яно ўжо ніколі ня скончыцца! Бог ніколі ня зьменіцца, ніколі нас не пакіне, калі мы самі Яго не пакінем. Дый любіць Бога мы будзем што раз больш, бо Ён у сваей натуры ёсьць такі вялікі, што ніколі Яго ўсяго не пазнаем. Пазнаваць Яго хопіць нам на ўсю вечнасьць: чым больш будзем Бога пазнаваць, тым больш будзем Яго любіць. Так нашае шчасьце будзе ўсьцяж узрастаць.

Нам падабаецца ўсё прыгожае, веліч і магутнасьць, сіла, мудрасьць і г. д. Вось жа Бог, які ўсё гэта стварыў, Сам ёсьць без параўнаньня большы і прыгажэйшы, магутней-

шы дый мудрэйшы ад усяго тварэньня. — Увесь сусьвет хваліць і праслаўляе Бога самым сваім існаваньнем, як прыгожы малюнак славіць прыгожага чалавека. Чалавеку прыемна аглядаць сябе ў люстры ці ў малюнку, а яшчэ больш цешыцца, калі і іншыя хваляць яго. Гэтак і Бог ня толькі цешыцца са сьвету, які Сам стварыў, але і з таго, што анёлы і людзі захопліваюцца «дзелам рук ягоных».

Сьвятое Пісьмо кажа аб чалавеку: «Апрануў іх у моц падобную да сваей і зрабіў іх падобнымі да Сябе . . .» Даў ім вольную волю, язык і вочы, вушы і сэрца, каб маглі думаць. Напоўніў іх ведай і розумам, научыў іх аб добрым і злым. «Бо нявідомае Яго, вечная сіла Яго і Божства ад стварэньня сьвету праз разважаньне аб творах відомым робіцца» (Рым. 1, 20). Сьвятое Пісьмо ганіць тых людзей, якія не пазналі Бога: «З бачнага дабра не трапілі пазнаць Таго, Хто ёсьць; гледзячы на творы, не пазналі Тварца . . . Калі будучы захопленыя іхным хараством, прынялі іх за божства, — дык павінны пазнаць, на колькі больш цудоўны ёсьць іхны Валадар, бо стварыў іх Стварыцель хараства; а калі іхняя магутнасьць і сіла выклікалі зьдзіўленьне, дык павінны былі пазнаць з іх, на колькі магутнейшы Той, Хто іх учыніў. Бо зь велічы і прыгожасьці твораў пазнаецца праз падабенства іхны Стварыцель» (Мудр. 1—5).

У Царкве сходзяцца людзі, якія пазнаючы Бога, хочуць падзяліцца між сабою тымі ўражаньнямі, якія выклікае у іх гэтае пазнаньне. Гэтак творыцца л і т у р г і я, у якой супольнасьць веручых славіць Бога сваімі перажываньнямі, пачуцьмі і думкамі. Адначасна веручыя лучацца з Богам праз веру, надзею і любоў, гавораць да Бога і слухаюць Божага слова, сьпяваюць Псальмы, напісаныя Прарокамі, песьні, уложаныя сьвятымі людзьмі дый прыймаць Сакраманты (Таінствы), устаноўленыя Самым Богам. Каб мець куды зыходзіцца на іх, веруючыя будуюць святыні, у якіх артысты славяць Бога сваім мастацтвам, будуючы і аздабляючы іх. Гэтак Царква зьбліжае людзей да Бога, а гэтым самым і да шчасьця, якога ніхто іншы даць ня можа.

*

НАШ АДКАЗ БОГУ: Буду бачыць Бога ў прыгожасьці сьвету, у якім я жыву.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі мір людзям добрай волі». Хвалім Цябе, благаславім Цябе, кланяемся Табе, дзякуем Табе дзеля вялікае славы Тваей, Госпадзе, Валадару нябесны, Божа Ойча Ўсемагутны!

БОЖАЕ СЛОВА: «О, глыбіня багацьця і мудрасьці і Божае веды! Як недасяжныя прысуды Ягоныя і недасьледаваныя Ягоныя шляхі! Бо хто пазнаў розум Гасподні? Або хто быў парадчыкам Яму?» (Із. 40, 13). «Ці хто даў Яму наперад, каб Ён аддаў яму?» (Там-жа). «Бо ўсё з Яго і праз Яго і ў Яго. Яму слава навекі. Аман» (Рым. 11, 33—36).

ВАТЫКАНСКІ II-гі САБОР: «Мастацтва з сваей натуры ікмнецца выразіць рознымі спосабамі ў людзкіх творах бесканечнае Божае хараство. Так мастацтва будзе тым больш пасьвячанае Богу і тым болей будзе павялічываць Ягоную чэсьць і славу, чым больш будзе ставіць сабе мэту, каб сваімі творамі набожна зварочваць чалавечую душу да Бога» (Канстытуцыя аб Літургіі).

ПЫТАНЬНЕ ДА IX-ае КАТЭХЭЗЫ:

18) Што кажа сьвет аб Богу?

АДКАЗ: Сьвет паказывае нам веліч і багацьце Божае прыроды.

*

## БОГ УЛАДАРЫЦЬ І КІРУЕ СЬВЕТАМ

### X-ая КАТЭХЭЗА

У Кнізе Прыповесьцяў Божая Мудрасьць кажа: «Калі Ён умацоўваў неба, я была з Ім; калі мерыў скляпеньне над акіянам; калі тварыў хмары там у вярху; калі мацаваў крыніцы ў глыбіні; калі ставіў граніцы мору, каб воды ня вышлч з берагоў; калі закладаў фундамант пад зямлю, Я была пры Ім настаўніцай» (8, 27-30).

*

Бог ня толькі стварыў сьвет, але ўсьцяж трымае яго пры існаваньні, гэта значыць, — заўсёды творыць яго, падобна, як электрычная станцыя ўсьцяж вытварае энэргію, каб гарэлі лямпы. Калі б вылучыць энэргію, лямпы адразу гаснуць! Гэтак і сьвет зьнікнуў бы ўмомант, каб Бог, хоць на сэкунду перастаў яго тварыць. — Гэтак разумее справу хрысьціянская філязофія. — «Ты даеш ім, а яны падбіраюць; Ты разгартаеш сваю руку й яны добра насычаюцца. Ты хаваеш сваё аблічча і іх зьнімае страх (жах). Дух адымаеш ад іх і яны здыхаюць і абертаюцца ізноў у пыл. Пашлеш твайго духа і яны творацца і аблічча зямлі Ты аднаўляеш» (Пс. 103, 28-30).

Бог уладарыць і кяруе сьветам у нязьменных законах, якія ўстанавіў стварыўшы яго. ДЗякуючы адвечным законам нябесныя целы, а між імі і нашая зямля, кружаць сваімі арбітамі. Гэтак сама бачныя законы кяруюць зьявамі ў прыродзе, даючы магчымасьць усім стварэньням жыць і разьвівацца. Таму аўтар Псальмаў кажа: «Ты загадываеш травам, каб расьлі для скаціны і зеляніна людзям на

карысьць, каб з зямлі вырастала збожжа ... і хлеб, каб чалавек здабываў з зямлі і віно, каб весяліла сэрца чалавека» (Пс. 103, 14-14).

Бог асабліва апякуецца чалавекам: ёсьць нашым найлепшым Айцом. Займаецца кожным, «бо Ён стварыў малога й вялікага і аднолькава клапоціцца аб усіх» (Мудр. 6, 7). Чалавек Богу абавязаны, што жыве дый мае ўсё патрэбнае для жыцьця. як кажа Сьвятое Пісьмо: «Жыцьцё і дыханьне і ўсё» (Дзей. 17. 25). — Аднак жа Божая апека не звальняе нас ад працы, але яе вымагае, бо інакш Божая помач была бы цудам, які разбураў бы парадак веры і пазбаўляў бы нас свабоды. Гэта і выразіў Хрыстос у прыповесьці аб талентах (Мат. 25, 26-30) і Кніга Прыповесьцяў (6, 6-11).

Але Бог празначыў людзей да вечнага шчасьця. Таму кажа ім перш шукаць Божага Валадарства дый ягонае справядлівасьці і так кіруе іхным жыцьцём, каб маглі ў яго ўвайсьці. Людзі не заўсёды патрапяць зразумець тое, што Бог усё робіць і кяруе сьветам ня так як чалавек. Ён кажа аб гэтым праз прарока Ісаю: «Мае думкі — ня вашыя думкі, ані вашыя дарогі ёсьць маімі дарогамі ... Бо як неба ад землі, так далёка мае шляхі ляжаць ад вашых шляхоў і мае думкі ад вашых думак» (Іс. 55, 8-9).

Бог ёсьць наймудрэйшы і ўсёмагутны. Таму і сьветам кіруе так, што заўсёды дасягае таго, чаго жадае. Калі чалавек пазваляе Богу кіраваць сваім жыцьцём і спаўняе ягоныя загады, дык даходзіць да вечнага шчасьця. Божую управу і апеку над усімі стварэньнямі, асабліва над людзьмі, мы называем Божым Провідам. Мы верым у гэта, бо так нам гаворыць Божае Аб'яўленьне.

*

Калі чалавек, атрымаўшы ад Бога свабодную волю, разбурае парадак устаноўлены Богам на сьвеце, тым ён супрацівіцца Богу, — інакш кажучы, грэшыць. Часта пры гэтым мы прычыняем боль і цярпеньне сабе і другім. А верныя Богу людзі хочуць выпаўняць Божы закон і ў Малетве Госпадняй просяць: «Будзь воля твая, як на небе, так і на зямлі». У Псальме 118 мы аказываем пашану Божаму закону ды просім аб помач, каб яго выпаўніць.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Бог, кіруючы сьветам, ёсьць маім Айцом. Маю да Яго давер і выпаўняю Ягоныя законы.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: «Твае рукі стварылі мяне і спасобілі мяне; Дай жа мне розум навучыцца уставаў Тваіх- Тыя, што баяцца Цябе, Убачуць мяне і ўцешацца, бо я чакаю на тваё слова. Ведаю, Госпадзе, што прысуды твае слушныя і справядліва Ты мяне пакараў» (118, 73—75).

БОЖАЕ СЛОВА: «Гляньце на нябесных птушак, што ня сеюць, ня жнуць і ня зьбіраюць да сьвірнаў і Айцец ваш нябесны жывіць іх» (Мат. 6, 26). «Ці ж не два вараб'і прадаюцца за адзін асар? і ні адзін з іх ня ўпадзе на зямлю бяз волі вашага Айца. У вас жа і валасы на галаве палічаныя» (Мат. 10, 28-30). «Ведаем, што тым, хто любіць Бога, ўсё памагае да дабра» (Рым. 8, 28).

НАВУКА ЦАРКВЫ: «Усе рэчы з самага факту, што яны створаныя, маюць сваю трываласьць, праўдзівасьць, дабрату ды адначасна свае асобныя законы і парадак, якія чалавек павінен шанаваць, прызнаючы адпаведныя мэтады паасобных навук і мастацтва (Пастаральная Канстытуцыя).

ПЫТАНЬНІ ДА X-ае КАТЭХЭЗЫ:

19) Як Бог апякуецца сьветам?

АДКАЗ: Бог захоўвае сьвет у існаваньні дый кіруе ім праз законы ПРЫРОДЫ.

20) У чым мы пазнаём Божую мудрасьць?

АДКАЗ: Божую мудрасьць мы пазнаём у законах, праз якія Бог кіруе сьветам.

УВАГА: Найбольшая перашкода ў зразуменьні Божае апекі над сьветам ёсьць існаваньне ў сьвеце цярпеньня ды грэху.

Бог дапускае цярпеньне, бо і яно вядзе нас да выратаваньня. Сын Божы якраз праз цярпеньне і сьмерць на крыжы выратаваў нас.

Таксама зло і грэх служаць Божым плянам. Таму Бог і дапускае іх, бо ня хоча адбіраць у людзей вольнае волі, якую даў чалавеку. «Цяперашніх цярпеньняў нават параўнаць нельга з той славай, якая аб'явіцца пасьля ў нас» (Рым. 8, 18).

*А. Калубовіч*

# Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства

## (РУКАПІСНАГА Й ДРУКАВАНАГА)

**Сьведчаньні пра гібель помнікаў пісьменства**

Які-ж лёс спаткаў помнікі беларускага пісьменства X—XVIII ст. ст.?

Шмат іх не дайшло да нас **з прычынаў натуральнага ізносу.**

Шмат **згарэла ў пажарах** Вільні (бібліятэка язуіцкай акадэміі й бібліятэкі й архівы япіскапскіх палацаў — у 1610 г.[105]), Віцебску (бібліятэкі й архівы Маркавага манастыра й колькіх блізкіх прыходаў і прыватных асобаў зь Віцебску, што былі на перахаваньні ў манастыры — у 1685 г.[106]), бібліятэка даміліканскага касьцёлу із зборам к. 600 кніг друку XV—XVIII ст. ст. — у 1869 г.[107]), Менску (358 актавых кніг 1641—1761 гг. Галоўнага трыбуналу — у 1762 г.[108]), Наваградку (архіў земскага суда — у 1764 г.[109]) і г. д.

Яшчэ болей іх загінула **ад пажараў, зруйнаваньняў і рабункаў у войнах,** пераважна із Масковіяй.

У 1611 г. згарэла багатая бібліятэка Усьпенскага сабору ў Смаленску, узарванага й падпаленага невядома кім[110]). «Книги справъ мѣскихъ Полоцкихъ по окрутномъ сплюндрованью мѣста Полоцкого (войскам маскоўскім — АК) въ року ... 1633 ... всѣ ... погорели»[111]).

У 1654 г. загінулі бібліятэкі зруйнаваных і спаленых тым-жа войскам язуіцкіх калегіяў у Віцебску, Воршы й Полацку й 36 касьцёлаў і манастыроў Магілёўшчыны й Віцебшчыны[112]), а ў спаленым Мсьціславе — ягоныя найстарэйшыя архівы[113]). У наступным годзе ў палаючай Вільні згарэла шмат кніг Літоўскай Мэтрыкі[114]). Найбольш пацярпелі ў вайну 1654—67 гг. кнігі, багата й памастацку аздобленыя: із аднаго Супрасьльскага манастыра ў 1656 г. было забрана, разам зь іншымі кнігамі й дарагімі царкоўнымі рэчамі, тры эвангельлі апракос у вабкладах із каляровых аксамітаў, прыбраных золатам і серабром[115]). Ведамы магілёўскі палкоўнік К. Паклонскі ў лісьце да наказнога ўкраінскага гэтмана Ів. Залатарэнкі ўжо ў сакавіку 1655 г. пісаў, што ад Масквы ў 1654—55 гг. «мелі мы такое рабаўніцтва дамоў Божых (г. зн. цэркваў і манастыроў — АК), якога ня бачылі і ад татараў»[116]). Беларускіх кніжок тады так шмат трапіла ў рукі маскоўскіх жаўнераў, што па заканчэньні вайны цар Аляксей Міхайлавіч вырашыў зьбіраць іх: у 1672 г. ён загадаў Пярэмыскаму[117]) ваяводзе адбіраць у жыхароў свайго ваяводзтва «польскіе и латинскіе печати книгъ и всякихъ писемъ, которые взяты въ польскихъ[118]) городѣхъ во время войны»[119]).

У 1708 г. загінулі блізу ўсе царкоўныя й прыватныя бібліятэкі й архівы Магілёва й Віцебска, разрабаваных і спаленых на загад Пятра I ягоным войскам[120]).

Нямала помнікаў пісьменства загінула ў вайну 1812 г.: толькі ў Смаленску згарэлі старыя дакументы архіву Смаленскага магістрату[121]) й губэрнскага архіву[122]), архіў Лідзкага замку (вывезены ў Смаленск войскамі Пятра I у пач. XVIII ст.[123]), архівы г. Мсьціслава (19 вялікіх пакункаў і 6 скрыняў), эваку-

---

105) АШ, § 14 (Описаніе рукописного отдѣленія Виленской Публичной библіотеки, Вильна, вып. 1, 1895 г., б. XIII).

106) Там-жа, § 25.

107) Там-жа, § 102.

108) АВАК, т. 13, № 68.

109) АШ, § 36.

110) Там-жа, § 15.

111) АСД, т. 1, б. IX.

112) И. Митрошенко. Іезуиты въ восточной части Бѣлоруссіи съ 1579-го по 1772-й г. – Полоцко-Витебская старина, вып. 2, Витебскъ, 1912 г., бб. 60, 102, 103; АШ, § 17.

113) АШ, § 17.

114) Другая частка кніг у 1659 г. па дарозе із Швэцыі затонула ў Балтыцкім моры — Н. Янчук. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры, Менск, 1922 г., б. 61; Бережков, б. 6; А. Булыка. Літоўская Мэтрыка — Полымя, 1968 г., № 2, б. 249.

115) АСД, т. 9, бб. 204—205.

116) Праф. Л. Акіншэвіч. Крывіцкае казацтва ў XVII ст. — час. «Сакавік», 1948 г., Остэргофэн (Нямеччына), № 1/2, б. 45.

117) г. Пярэмышль — зараз-жа на поўдзень ад Масквы.

118) Так тут названыя беларускія кнігі й гарады; да польскіх гарадоў маскоўскае войска не даходзіла.

119) Н. Оглоблинъ. Къ исторіи гоненій на «литовскія книги» въ XVII вѣкѣ — Библіографъ, СПБ, 1899 г., № 5.

120) Летапіс Магілёва, 8. IX. 1708 г. (АСД, т. 2, бб. LXI—LXII); Летапіс Віцебска, 28. IX. 1708 г. (Россія, бб 454—455); АШ, § 28.

121) АШ, § 49.

122) Там-жа, § 51.

123) Палеес, бб. 136—138.

яваныя туды перад прыходам напалеонаўскай арміі[124]).

У канцы 1918 г. была спаленая бібліятэка ў двары Грабніцкіх у Дрысенскім пав., якая мела болей за 100 беларускіх рукапісных кніг XII—XVI ст. ст.[125]).

І г. д. [126]).

Такія прычыны й акалічнасьці гібелі помнікаў пісьменства ёсьць аднак агульнымі для гісторыі ўсіх народаў. Розьніца можа быць адно ў памерах стратаў. Адрозьненьне-ж — у лёсе тых памнікаў, каторыя не загінулі ад ізносу, у пажарах і войнах. У Беларусі іх спаткаў лёс народу, заваяванага й асуджанага на нацыянальнае забойства: за малымі выключэньнямі, яны былі забраныя ад народу, які іх тварыў, і далучаныя да скарбаў заваёўніка ці зьнішчаныя.

### Вывазы помнікаў пісьменства із Беларусі

Гаворка тут будзе галоўна пра **плянаваныя** вывазы, **адміністрацыйна прадпісаныя** ў акцыях вывазаў розных культурных каштоўнасьцяў із каляніяльнага краю ў мэтраполію.

Пры нагодзе заўважым, што некаторыя беларускія кніжкі трапілі паза межы Беларусі гандлёвай дарогай. Лявон Мамоніч у прысьвячэньні Л. Сапегу да выдадзенай ім у 1609 г. кнігі «Трипѣснецъ цвѣтоносный» сьцьвярджаў, што із друкарні, якую заснаваў ягоны бацька «много книгъ» «до всехъ краевъ народу и языка словенского вышло», а па бацькавай сьмерці й «отъ мене не мало ся на свѣтъ высылало».

Апрача Украіны й славянскага паўдня, яны йшлі ў Масковію[127]). Канкрэтна мы можам назваць выданьні Мамонічаў (Вучыцельнае эвангельле 1595 г.[128]), Служэбнік 1598 г.[129]), Эвангельле апракос 1600 г.[130]), Трыодзь каляровая й Трыодзь посная 1609 г.[131]), і інш.); С. Собаля, якія беларускі друкар у 1637 г. сам вазіў у Маскву, дзе яны «в приказе его царского величества были показываны и за пожалованьем великим его царского величества велено, за ведомом преосвященного патриарха московского, те книги продавать ему явно»[132]); друкарні Куцейнаўскага манастыра — 530 экз. Эвангельля цетр 1652 г., якія прывозілі ў Маскву й прадалі «черный поп Венедихт да келарь старец Акакий»[133]), і г. д.

Але гэта былі амаль вылучна **друкаваныя** кнігі, **некаторыя** выданьні беларускіх друкарняў і як правіла **ў царкоўнаславянскай мове** (багаслужбовыя й інш.). Да таго-ж у Маскве да іх часта ставіліся із падозраньнямі й продаж забаранялі. Калі С. Собаль у 1639 г. ізноў павёз із Магілёва кнігі свайго друку ў Маскву, яго зь Вязьмы завярнулі назад у Беларусь, бо цар «к Москве ево отпущать не велел, чтоб в его ученье и в книгах смуты не было . . . и от нево б, Спиридона, какая ересь не объявилаcard»[134]).

Вывазы помнікаў пісьменства із Беларусі пачаліся задоўга да заваяваньня яе Расеяй. Пісьмовыя сьведчаньні пачынаюць рэгістраваць іх ужо ад XV ст. Помнікі пісьменства ў тых вывазах — вайсковыя трафэі із часова занятых маскоўскім войскам беларускіх земляў пад час войнаў.

«Фундушы з церкви мурованое светое Пречистое . . . на местѣ господарском Витебском еще за щасливого понованья . . . короля Александра (г. зн. у вайну 1492 ці 1500—1503 гг. — АК) . . . от злодѣев, которые з Новгорода московского великого тую церковъ крали, покрадены суть . . . Фундушы головнѣйшые и привилеи е. кор. млсти, наданые на церкви розные (у Полацку, Мсьціславе, Воршы й цэлай Полацкай эпархіі — АК), отъ непріятеля е. к. м. — князя великого Московского (Івана Грознага — АК), которій былъ въ Полоцку (у 1563 г. — АК) — съ церкви светое Софеи забраны и до Москвы дей завезены суть»[135]).

На загад патрыярха Нікана з кастрычніка 1655 г.[136]), у 1656 г. із Куцейнаўскага мана-

---

124) АШ, § 56 (А. Жиркевичъ. Смоленскія архивы въ 1812 г. — Смоленская старина, 1909 г., вып. 1, ч. 1, бб. 357—358).

125) АШ, § 127.

126) АВАК, т. 34, № 178 (Магілёў, 1661 г.); АШ, § 29 (В. Сабининъ. Охорскій Преображенскій монастырь — Могилевскія Епархіальныя Вѣдомости, 1889 г., № 21, бб. 310—311); АШ, § 44 (Слуцак, 1812 г.); АШ, § 64 (Нясьвіж, 1813 г.); R. Ziemkievič. Vasil Ciapinski — Biełaruskaje žyćcio, Vilna, 1919 h., N. 5 (m. Krošyn, 1916 h.) і інш.

127) Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku, z. 5, Wielkie Księstwo Litewskie, Wrocław—Kraków, 1959, б. 155.

128) А. С. Зернова. Типография Мамоничей в Вильне — Книга, сб. 1, 1959 г., бб. 203—204.

129) Там-жа, бб. 208—209.

130) Там-жа, бб. 210—211.

131) Там-жа, бб. 213—214.

132) Ліст дарагабускага ваяводы Я. Грымалы-Крамяноўскага да вяземскага ваяводы Ю. Буйносава-Растоўскага за 7/17. IV. 1639 г. — Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667 гг.) под ред. Л. С. Абецедарского и М. Я. Волкова, Минск, 1963 г., б. 157.

133) Чалабітная аршанскіх манахаў к. 2. IV. 1653 г. — у тым-жа зборніку, б. 278.

134) Царскі ўказ за 22. IV. 1639 г. — Там-жа, б. 160.

135) Сьведчаньні віцяблянаў і палачанаў у 1620 г. — А. П. Сапуновъ. Витебская старина, т. 5, ч. 1, Витебскъ, 1888 г., бб. 112—114. Тут мова толькі пра фундушы дзеля таго, што толькі пра іх і распытваўся ў віцябляна ў і палачанаў архіяп. Язафат Кунцэвіч. Разам із фундушамі, тады маглі быць «пакрадзены» й «забраны» й інш. кнігі.

стыра, разам з манастырскай друкарняй, былі вывезеныя ў валоданьне патрыярха — Іверскі манастыр к. Ноўгараду — рукапісныя й друкаваныя кнігі[137]). Колькі ўсіх іх было, мы ня ведаем, але праз 9 год, у 1665 г., там было яшчэ 1206 кніг, выдадзеных у Воршы. Гэта былі «521 книга Брашно, въ тетратехъ, да 2 Брашна розбитыхъ[138]); 41 псалтырь, голыхъ ... 290 азбукъ, съ вопросы и съ отвѣты; з книгъ Варлаама и Асафа, въ тетратехъ; 145 книгъ Діоптръ, въ переплетѣ въ доскахъ; 118 книгъ Лексиконовъ, въ доскахъ ... 25 Молитвъ на сонъ грядущій; восмнадцатеры Святцы; 11 Канюновъ акафистовъ»[139]). Частка іх, на загад патрыярха з 30. XI. 1665 г., была адпраўлена ў ягоную рэзыдэнцыю — Уваскрэсенскі Нова-Ерусалімскі манастыр на Істры[140]), скуль потым трапіла ў патрыяршую бібліятэку ў Маскве[141]). У тую-ж маскоўскую бібліятэку із г. Баркулабава[142]) ў вайну 1654—67 гг. забраны зборнік із колькімі беларускімі летапісамі, спаміж якіх і Баркулабаўскі. У 1662 г. із Наваградка быў вывезены архіў Галоўнага трыбуналу[143]).

Ужо па вайне, у 1669 г., у Пасольскі прыказ у Маскву, на загад кіраўніка прыказу А. Ардын-Нашчокіна, із Смаленска былі высланыя кнігі, што перад тым былі адабраны «у ксендзовъ и у езовитовъ» і сабраныя «въ приказной избѣ», а таксама й бібліятэка «шляхтянки вдовы Рачинской»[144]). У 1672 г., на загад цара, із той-жа «избы» былі высланыя кнігі ў Стралецкі прыказ у Маскву[145]).

У часе Сямігадовай расейска-прускай вайны із бібліятэкі Кёнігсбэргскага замку быў забраны й у 1760 г. перададзены бібліятэцы Пецярбурскай АН Радзівілаўскі сьпісак Пачатнага летапісу[146]) (пакладзены ў 1671 г. у Кёнігсбэрг на перахаваньне кн. Багуславам Радзівілам, як мы ўжо мелі нагоду гаварыць пра гэта); а ў 1772 г. у бібліятэку Пецярбурскай АН была вывезена із Нясьвіжу і ўся бібліятэка Радзівілаў[147]), скуль пазьней частка ейных кніг была перададзена Пецярбурскай духоўнай акадэміі й Маскоўскаму ўнівэрсытэту[148]).

Шэраг помнікаў старога беларускага пісьменства засталося ў гарадох Заходняй Украіны — у Львове, Галічы, Бельзе, Пярэмышлі — куды ў часе войнаў яны вывозіліся на перахаваньне[149]).

**Сыстэматычныя й масавыя вывазы** іх пачаліся ад часу далучэньня Беларусі да Расеі ў кан. XVIII пач. XIX ст. ст. Ішлі яны адначасна колькімі дарогамі: адборам помнікаў із розных бібліятэк і архіваў у прыватныя ці дзяржаўныя зборы, канфіскацыяй і вывазам цэлых выдатнейшых архіваў і бібліятэк. Для большае зручнасьці прасочым кожную із гэтых дарог упаасобку.

Пачнем із **адбораў помнікаў.** У 1772—80-ых гг. расейскі гэнэрал-губэрнатар у Магілёве граф З. Чарнышоў укамплектаваў із розных бібліятэк усходняй Беларусі ў палацы падараванага яму Кацярынай II Чачэрску ўласную бібліятэку[150]), пазьней[151]) вывезеную ў Расею. Каля 1790 г. польскі калекцыянэр граф Я. Асалінскі аб'ехаў Беларусь і «сабраў мноства рукапісаў і кніг з манастырскіх і царкоўных бібліятэк»[152]), якія зь іншымі матар'яламі ягонага збору ляглі ў васнову закладзенага ў 1827 г. у Львове Нацыянальнага інстытуту й бібліятэкі імя Асалінскіх.

У 1793—94 гг., на загад Кацярыны II, «для собственнаго употребленія по упражненію ея въ историческихъ сочиненіяхъ», із беларускіх і ўкраінскіх манастырскіх, царкоўных і прыватных бібліятэк у Пецярбург забіраліся летапісы, радаслоўныя найбольш славутых шляхоцкіх родаў і іншыя «къ тому относящіеся сведенія», якія ўвайшлі ў гістарычную калекцыю Эрмітажнага збору, перададзенага ў 1852 г. Пецярбурскай Публічнай бібліятэцы.[153]) Як шмат іх было забрана — невя-

136) Книга, сб. 13, 1968 г., б. 100.

137) Архим. Леонидъ. Типографія Оршанскаго Кутеинскаго и Иверскаго Валдайскаго монастырей — Вѣстникъ Общества древнерусскаго искусства при Московскомъ Публичномъ музеѣ, 1876 г., № 1—12, б. 95.

138) Друк гэтай кнігі быў распачаты ў Воршы, а закончаны ў 1661 г. у Іверскім манастыры.

139) Роспись книгамъ, сданнымъ старцемъ Афанасіемъ священнику Евстафію. 1665, Сентября 12 — Акты Иверскаго Святоозерскаго монастыря (1582—1706 гг.), собранныя о. архимандритомъ Леонидомъ (РИБ, т. 5, № 204).

140) Архим. Леонидъ. Типографія ..., б. 95; РИБ, т. 5, № 208 і 211.

141) Опись греческихъ, латинскихъ, польскихъ и славянскихъ книгъ, печатныхъ и рукописныхъ, взятыхъ изъ Иверскаго подворья и Воскресенскаго монастыря въ патріаршую ризницу, 1675 г. — Чтенія въ Императорскомъ обществѣ исторіи и древностей россійскихъ при Московскомъ университетѣ, 1847 г., № 5, разьдз. IV, бб. 1—17.

142) Цяпер — с. Баркулабава к. Быхава.

143) Россія, б. 540.

144) Бѣлокуровъ, бб. 35—36.

145) Там-жа.

146) Полное собрание русских летописей, т. 1, Предисловие, б. VI; і інш.

147) ЭС, т. 3, б. 790; Россія, бб. 432—433.

148) Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, бб. 1240—1241.

149) АЗР, т. 1, б. II і т. 5, 1853 г., б. VI; АШ, § 250.

150) Яна згадваецца С. Фартынскім і іншымі дасьледчыкамі гісторыі экслібрысаў — гл. Тычына, тамжа.

151) Дакладныя акалічнасьці вывазу яе нам не ўдалося выясніць.

152) АШ, § 253в.

153) П. А. Гильтебрандтъ. Розыскъ западно-русскихъ лѣтописей для императрицы Екатерины 2 —

дома, бо «все ранее существовавшие описи (гэтай калекцыі — АК) бесследно исчезли»[154]), а «из коллекции... ушли, в некоторых случаях, чтобы погибнуть, многие ценные памятники старины[155]) ... Известно, что у Екатерины II ... оказалось около 150 летописцев. Осталось же их в собрании менее 50».[156])

У І-ай чвэрці XIX ст. помнікі старога пісьменства, якія ў 1828 г. далі пачатак Румянцаўскаму музэю ў Пецярбургу,[157] зьбіраў расейскі канцлер М. Румянцаў (уласьнік Гомеля, падараванага ягонаму бацьку Кацярынай II). У калекцыях М. Румянцава, сярод іншых, былі кнігі, рукапісы й дакументы, сабраныя ў Гомелі, Смаленску[158] й іншых месцах Беларусі.[159] З дазволу расейскіх уладаў дырэктар Варшаўскай Публічнай бібліятэкі польскі філёляг С. Ліндэ ў 1819 г. вывез у Варшаву із зачыненых у Беларусі манастыроў 50.000 кніг.[160]

Пецярбурская Археаграфічная камісія «немедленно по учрежденіи своемъ (у 1834 г. — АК) распорядилась о передачѣ ей старинныхъ бумагъ изъ западно-русскихъ библіотекъ и архивовъ и успѣла приобрести (із эпархіяльных архіваў Полацка, Магілёва й Менска; бібліятэк Магілёўскай духоўнай сэмінарыі й Віленскай капітулы; архіваў Галоўнага трыбуналу ў Вільні, Беластоцкага акруговага кіраўніцтва, Віцебскай губэрнскай казённай палаты, паветавых судоў у Мсьціславе, Мгліне, Ваўкавыску, Сломіне, магістратаў у Берасьці, Бельску, Воршы, Вяліжы, Горадні, Лідзе, Магілёве й г. д.[161]) огромныя коллекціи актовъ».[162]

**Вывазы цэлых архіваў** пачаліся ад канфіскацыі Літоўскай Мэтрыкі. У 1795 г., на «предписаніе» Сэнату з 21. XI. 1794 г., у Сэнацкі архіў у Пецярбург быў перавезены Галоўны архіў Вялікага княства Літоўскага із Літоўскай Мэтрыкай, дзе пазьней дакументы ягоныя былі падзеленыя паміж Маскоўскім архівам Міністэрства юстыцыі, Маскоўскім Галоўным архівам міністэрства замежных спраў, Пецярбурскай Публічнай бібліятэкай, Румянцаўскім музэем[163] і іншымі міністэрствамі й установамі.[164]) У 1799 г. Прусія, якой, паводля ўмовы із Расеяй і Аўстрыяй, у 1795 г. была аддадзеная паўночна-заходняя Горадзеншчына із Беластокам, атрымала 1.200 беларускіх актавых кніг і к. 1.500 пасобных дакумантаў і зьвязкаў, спаміж якіх было болей за 900 дакумантаў, што нат ня тычыліся тэрыторыі, далучанай да яе.[165] Пасьля Тыльзіцкае ўмовы 1807 г., калі аддадзена Прусіі частка Горадзеншчыны была далучаная да Расеі, акты гэтыя із Прусіі былі вернутыя ў ... Каронны архіў у Варшаву.[166]

Архіў зачыненага ў 1832 г. Віленскага ўнівэрсытэту (был. язуіцкай акадэміі), разам з архівамі Ігнатоўскай, Сьніпіскай і Горадзенскай калегіяў, у 1832 г. із Вільні былі вывезеныя ў Міністэрства народнае асьветы ў Пецярбург.[167] У 1837 г. Горадзенскі губэрнатар із двара Сапегаў у Дзярэчыне, сканфіскаванага за ўдзел князя ў паўстаньні 1831 г., частку архіва пераслаў Пецярбурскай Археаграфічнай камісіі, а другую частку — Пецярбурскай Публічнай бібліятэцы.[168]) (У архіве Сапегаў, апрача іншых матар'ялаў, у 1819 г. былі 232 тамы дакумантаў 1227—1760 гг.[169]) У 1845 г. у Пецярбурскі Сынадальны архіў быў дастаўлены архіў беларускіх вуніяцкіх мітрапалітаў[170]) із дакумантамі ад 1470 г.

**Вывазы цэлых бібліятэк** запачаткавала бібліятэка Магілёўскага архіяпіскапа Варлаама (Шышацкага), у 1813 г. арыштаванага й сасланага, на загад цара Аляксандра I, за пераход ягоны ў 1812 г. на бок адноўленага Вялікага княства Літоўскага й Напалеона. Бібліятэка архіяпіскапа (у 1823 г.) была забраная ў Пецярбурскую духоўную акадэмію.[171])

---

Древня и Новая Россія, СПБ, 1880 г., т. 16, № 4, бб. 824—825; АШ, § 40; Историческая коллекция Эрмитажного собрания рукописей. Памятники XI—XVII вв. Описание. Сост. Д. Н. Альшиц, Москва, 1968 г., бб. 9—10 і 18.

154) Историческая коллекция..., б. 18 (Альшыц адшукаў адну із іх, але ўложаную ўжо па сьмерці Кацярыны й па зьнікненьні многіх летапісаў — Там-жа, б. 19).

155) Там-жа, б. 8.

156) Там-жа, б. 11.

157) У 1861—62 гг. музэй быў перавезены ў Маскву.

158) АШ, § 68 (Н. Бокачевъ. Опись русскихъ библіотекъ, СПБ, 1890 г., б. 44; Н. Мурзакевичъ. Исторія гор. Смоленска, 1903 г., б. 16).

159) Н. Н. Улащик. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода, АН СССР, Москва, 1973 г., бб. 26 і 27.

160) АШ, § 253е.

161) АЗР, т. 1, бб. I—II і т. 4, 1851 г., б. V.

162) Там-жа, т. 1, б. I.

163) Н. Янчук, бб. 61—62; Памятная книга Сѣнатскаго архива, СПБ, 1913 г., б. 23; ЭС, т. 19, б. 200; АШ, § 41.

164) Праф. М. Доўнар-Запольскі. Старыя беларускія архівы за межамі БССР — СБК ПЗБАА, Рэфэраты, бб. 31—52 і Рэзалюцыі, бб. 5—6.

165) Памятная книга..., б. 24; ЭС, т. 19, б. 199.

166) Иконниковъ, т. 1, кнг. 1, бб. 464—465.

167) Там-жа, т. 1, кнг. 2, б. 953.

168) Там-жа, т. 1, кнг. 1, бб. 258—259; т. 1, кнг. 2, бб. 1237—1238; АШ, § 77.

169) Там-жа.

170) Там-жа, т. 1, кнг. 1, б. 467.

171) Там-жа, б. 732. Паводля іншае крыніцы (Сборникъ Императорскаго русскаго историческаго общества, т. 139, СПБ, 1912 г., б. XXXVIII), частка

Бібліятэка зачыненай у 1820 г. Полацкай язуіцкай акадэміі ў 1830 г. была падзеленая паміж Пецярбурскай Публічнай бібліятэкай («всѣ рѣдкія и раскошныя изданія»[172]) — 177 тт. кніг і 106 рукапісаў[173]), Пецярбурскім (6.260 тт.) і Маскоўскім (454 тт.) унівэрсытэтамі,[174]) бібліятэкай Галоўнае ўправы духоўных спраў «иностранныхъ исповѣданій» у Пецярбургу (3.056 тт.),[175]) Полацкім кадэцкім корпусам (2.080 кніг),[176]) эвакуяваным у 1-ую сусьветную вайну із бібліятэкай у г. Сімбірск,[177]) і г. д.[178]) Бібліятэка зачыненага Віленскага ўнівэрсытэту (был. язуіцкай акадэміі, к таму часу мела 51.837 тт.) у 1835 г. была падзеленая паміж Пецярбурскай Архэаграфічнай камісіяй (рукапісы гістарычнага зьместу[179]), Пецярбурскай Публічнай бібліятэкай (усе іншыя рукапісы[180]), Харкаўскім (4.374 кнігі[181]) і Кіеўскім (7.819 кніг[182]) унівэрсытэтамі, і г. д.[183])

Сканфіскаваная (разам із архівам) Дзярэчынская бібліятэка Сапегаў у 1837 г. была перасланая Пецярбурскай Публічнай бібліятэцы.[184]) Бібліятэка Віленскай рымакаталіцкай акадэміі, кнігі якой (30.000 тт. у 1835 г.) паходзілі із бібліятэк былых язуіцкай акадэміі й Галоўнай каталіцкай сэмінарыі ў Вільні, у 1842 г. была перавезеная, як і сама акадэмія, у Пецярбург;[185]) прычым, 862 тт. зь яе адразу былі перададзеныя Кіеўскаму ўнівэрсытэту[186]), а рэшта ў 1927—28 гг. — Бібліятэцы АН СССР у Ленінградзе.[187]) Бібліятэка был. Полацкай вуніяцкай сэмінарыі (мела болей за 10.000 тт., спаміж якіх і стара-друкі) у 1900 г., на загад Пецярбурскага Сыноду, вывезена із Віцебска ў Кіеўскую духоўную акадэмію.[188])

У 1915 г. із Шчорсаў у Кіеў (у бібліятэку ўнівэрсытэту) былі эвакуяваныя бібліятэка й архіў графаў Храбтовічаў.[189]

Шмат помнікаў старога пісьменства, якія ў XIX— пач. XX ст.ст. былі сабраныя ў Беларусі ў **прыватныя й дзяржаўныя зборы**, з часам трапілі ў бібліятэкі й архівы Расеі й Польшчы. Збор граф. Віленскага ўнівэрсытэту М. Бабраўскага, ведамага зьбіральніка беларускіх і іншых славянскіх рукапісных і старадрукаваных кніг, у сяр. XIX ст. часткава дастаўся ў бібліятэку графаў Замойскіх у Варшаву, а часткава — у бібліятэку АН у Пецярбург[190]); зборы юрыдычных актаў І. Грыгаровіча,[191]) П. Якубовіча,[192]) А. Старажэнкі,[193]) Хадаровіча[194]) — у Пецярбурскую Архэаграфічную камісію.

Збор кальвінскага пастара ў Слуцку Юльляна Бэргэля па сьмерці ягонай († 1885 г.) быў прададзены антыквару Ігелю ў Кракаў, скуль пасьля перапрадажу частка яго трапіла ў бібліятэку Асалінскіх у Львове. «У гэтым выдатным зборы рэдкіх кніг... быў камплект старадаўных Любчанскіх, Ракаўскіх... Слуцкіх, Нясьвіскіх, Менскіх... Берасьцейскіх, Еўеўскіх... Заблудаўскіх, Супрасьльскіх... Віленскіх і іншых друкаў. Да таго-ж — разнастайны збор многіх цікавых старых рукапісаў» (Biblioteka Warszawska, 1885, t. 3). Із 1.500 кніг збору 40 ня былі ведамыя бібліяграфіі.[195]) Збор менскага архэоляга Г. Татура[196]) па ягонай сьмерці ў 1907 г. быў распрададзены прыватным асобам,[197]) невядомым для навукі.

Бібліятэцы АН у Пецярбургу ў 1908 г. быў перададзены збор рукапісаў, актаў і старых кніжок, якія некалі вывез із Жыровіцкага й іншых манастыроў Беларусі яп. Павел (Дабрахотаў), былы выкладчык вуніяцкай (1837—39 гг.), а потым праваслаўнай (1839—45 гг.) духоўнай сэмінарыі ў Жыровічах. Найбольшая каштоўнасьць гэтага збору — к. 3.000 дакумантаў (зь іх па-над 30 пэргамінных), сшытых у болей за 50 кніг; усе з гісторыі царквы Тураўшчыны й Піншчыны XVI—

---

«богатой библіотеки Варлаама» ў 1823 г. была перададзена Чарнігаўскай духоўнай сэмінарыі.

172) ЭС, т. 3, б. 792.

173) Императорская Публичная библіотека за сто лѣтъ, СПБ, 1914 г., б. 107.

174) В. П. Викентьевъ. Полоцкій кадетскій корпусъ, Полоцкъ, 1910 г., бб. 44—45.

175) Там-жа, б. 45.

176) Там-жа, бб. 44—46.

177) АШ, § 70.

178) Викентьевъ, бб. 44—46.

179) АШ, § 72.

180) ЭС, т. 3, бб. 790 і 806.

181) Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, б. 953.

182) Там-жа.

183) АШ, § 72.

184) Там-жа, § 77.

185) АШ, §§ 72 і 82; Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, б. 953.

186) Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, б. 944.

187) Книга, сб. 10, б. 278.

188) АШ, § 110.

189) ІБК ПЗБАА, Пратакол, б. 25.

190) П. О. Бобровскій. М. К. Бобровскій — Руская старина, т. 62, 1889 г., бб. 618—621; Исторический очерк и обзор фондов Рукописного отдела Библиотеки Академии наук, Москва—Ленинград, вып. 2, 1958 г., бб. 100—101.

191) Иконниковъ, т. 1, кнг. 1, бб. 259 і 519.

192) Там-жа, т. 1, кнг. 2, бб. 1337—1338.

193) Там-жа, т. 1, кнг. 1, б. 266.

194) Там-жа, б. 267.

195) Мальдзіс. Сьляды продкаў..., бб. 12—13 (A. Jelski. Wiadomość o bibliotece Juljana Bergela, pasterza w Słucku, пасьля 1883 г.).

196) Г. Татур усё сваё жыцьцё зьбіраў з цэлае Беларусі розныя помнікі беларускай старажытнасьці, а ў тым і пісьменства. Збор ягоны ў 1907 г. быў ацэнены на 200.000 рублёў.

197) АШ, § 200; Л. Аляксееў. Вяртаючы народу мінулыя стагодзьдзі... — Полымя, 1969 г., № 12, бб. 194—195.

XVIII ст.ст. (пераважна — цэлыя архівы выдатнейшых манастыроў).[198])

У 1915 г. углыб Расеі быў вывезены рукапісны збор Віленскай Публічнай бібліятэкі, пасьля чаго неўзабаве і ў СССР і замежамі зьявіліся паведамленьні аб нібыта ягонай гібелі.[199]) У гэты самы вялікі ў Беларусі збор рукапісных і старадрукаваных кніг у XIX ст. было сабрана із Турава, Полацка, Воршы, Вільні, Супрасьля (к. 100 рукапісных кніг[200]) і шэраг старадрукаў, у 1877 г.), Наваградка, Магілёва, Слуцка, Віцебска, Жыровічаў, Нясьвіжу, Пінска, с. Дзявяткавічаў Слонімскага пав. і іншых гарадоў і сёлаў Беларусі некалькі сот кніг XI—XVIII ст.ст. у царкоўнаславянскай і беларускай мовах, шмат старадрукаў у лацінскай мове, а таксама багатая калекцыя дакумантаў XII—XVIII ст.ст. (Із ужо згадванага намі архіву князёў Сапегаў у Дзярэчыне сюды ў 1858 г. была перавезена рэшта — «каля 200 пудоў» — юрыдычных актаў, якія па канфіскацыі іх перахоўваліся ў Горадзенскай Палаце дзяржаўных маёмасьцяў[201]).

Тады-ж у Расею былі вывезеныя Віленскі й Віцебскі Цэнтральныя архівы старажытных актаў.[202]) Абодва яны былі створаныя для перахоўваньня дакумантаў ад найдаўнейшых часоў да 1799 г. уключна: у Віленскім (засн. у 1852 г.[203]) — з губэрняў Віленскай, Горадзенскай, Ковенскай і Менскай (г. зн. із былых Віленскага, Троцкага, Берасьцейскага й Менскага ваяводзтваў), а ў Віцебскім (засн. у 1862 г.[204]) — з губэрняў Віцебскай і Магілёўскай (былых Віцебскага, Полацкага, Мсьціслаўскага ваяводзтваў і Інфлянтаў, далучаных да Вялікага княства Літоўскага ў 1561 г.). Да 1863 г. у першы зь іх было зьвезена із 140 розных архіваў 18.248 актавых кніг ці зьвязак, некаторыя зь якіх мелі болей за 1.000 аркушаў дакумантаў.[205]) Другі, які пазьней, у 1903 г., быў перавезены ў Вільню й далучаны да Віленскага, у кан. XIX ст. меў 1.896 кніг.[206])

Наагул, паводля заявы намесьніка загадчыка Цэнтраархіву БССР, «усе цікавейшыя архівы зь Беларусі былі забраныя ў цэнтар Расеі ... Каля 70 фондаў, якія скалаліся на Беларусі, былі вывезеныя».[207])

Уцалелая ад рабункаў вайны й рэвалюцыі частка рукапісаў, друкаў і дакумантаў музэю А Ельскага, заснаванага ім у 1864 г. у сваім двары Замосьце к. Смалявічаў[208]) (у музэі, сярод іншых экспанатаў, быў збор кніг к. 7.000 із рэдкімі беларускімі выданьнямі й к. 20.000 рукапісаў[209]), у 1919 г. вывезена ў Варшаву (у Нацыянальную бібліятэку й Галоўны архіў старажытных актаў[210]) і Кракаў (у бібліятэку Ягайлаўскага ўнівэрсытэту[211]).

І г. д.[212]).

---

198) Е. Ф. Карскій. Бѣлорусы, т. 2, вып. 3, Варшава, 1912 г., б. 300; Жуковичъ, б. 244; Историческій очерк и обзор фондов ..., бб. 112—114.

199) Е. Ф. Карский. Славянская кирилловская палеография, Ленинград, 1928 г., б. 16; R. Eisler. Die messionische Unabhändigkeits, Heidelberg, v. I, 1929, б. 23.

200) Добрянскій, б. XVII.

201) М. О. Кояловичъ. Западно-русскія археографическія изданія — Журналъ Министерства народнаго просвѣщенія, СПБ, 1872 г., № 2, б. 248.

202) АШ, § 114 (В. Смолка. Пагібель старасьветчыны — Часопісь Міністэрства Беларускіх Спраў, Коўна, 1919 г., № 1); LE, т. 1, б. 247. (У Вільні былі пакінутыя актавыя кнігі толькі з XVIII ст.).

203) У васнову яго быў пакладзены архіў Галоўнага трыбуналу віленскай кадэнцыі, куды ў 1837 г. быў перададзены архіў Скарбовага трыбуналу, зь Менску перавезены архіў Галоўнага трыбуналу менскай кадэнцыі, а ў 1840 г. — Троцкі архіў (R. Mienicki. Archiwum akt dawnych w Wilnie, Warszawa, 1923, бб. 1, 2, 19, 20).

204) Пачатак яму далі 1002 справы, перададзеныя із Архіва Віцебскага, Магілёўскага й Смаленскага гэнэрал-губэрнатарства, ліквідаванага ў 1855 г. (Улащик. Очерки по археографии .. , б. 173).

205) М. Улашчык. Віленская археаграфічная камісія — Полымя. 1971 г., № 5, б. 248. Пра багацьці актавага матар'ялу ў Віленскім Цэнтральным архіве могуць даць некаторае ўяўленьне падлікі Улашчыка, паводля якіх адзін із архівараў гэтага архіву, І. Спрогіс, за 50 год свае працы ў архіве (1865—1915 гг.) пераглядзеў і перачытаў к. 1.800.000 аркушаў дакумантаў (Улащик. Очерки по археографии ..., б. 103). І гэта толькі якаясь іхная частка.

206) R. Mienicki. Archiwum akt dawnych w Witebsku, Warszawa, 1939, бб. 23—24.

207) М. Мялешка. Архіўная справа ў БССР да сучаснага моманту — ІБК ПЗБАА, Рэфэраты, б. 61.

208) Ліст Ф. Багушэвіча да Я. Карловіча за 2/14. XII. 1891 г. — Ф. Багушэвіч. Творы, Мінск, 1967 г., б. 187; М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літэратуры, Вільня, 1921 г., б. 101; А Мальдзіс. Творчае пабрацімства, Мінск, 1966 г., б. 150.

209) Полымя, 1971 г., № 3, б. 245.

210) Час. «Крывіч», Коўна, 1925 г., № 10/2, б. 108; Encyklopedja powszechna Ultima Tule, t. 5 Warszawa, 1933, б. 176; А. Мальдзіс. Пошукі, пошукі ... — ЛІМ за 12. VII. 1963 г.; яго-ж: Падарожжа ў XIX стагодзьдзе, Мінск, 1969 г., бб. 162—167.

211) Мальдзіс. Тры месяцы ..., бб. 222 і 228.

212) Е. Ф. Карскій, Бѣлорусы, т. 3, вып. 2, Петроградъ, 1921 г., бб. 239—240; АШ, §§ 78, 80, 92, 219, 224 і 254; А. Ясенеў. Навуковае значэньне Віцебскага акруговага аддзелу Цэнтральнага архіву БССР — ІБК ПЗБАА, Рэфэраты, б. 69 і наст.; Иконниковъ, т. 1, кнг. 1, б. 259.

---

Памылкі друку в артыкуле «Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства» в «Божым Шляхам» № 1/139 на бач. 28.

---

# Дарога

## СЛОВА АБ ПАКУЦЕ

(Увага: Можа таму так называецца, што людзі сядзяць паасобку — па кутох: моляцца, твораць рахунак сумленьня, разважаюць аб апошніх справах чалавека. Гэта ёсьць адначасна і прыгатаваньне да сьмерці, якое завяршаецца споведзяй і Сьвятой Камуніяй).

Благаславім цярпеньне: трэба яго любіць і асьвячаць . . . нават і пахваляць. — Каб лепш і з карысьцяй перайсьці праз лекцыю цярпеньня, трэба ўчытацца ў праграму, якую выпісаў апостал Павал: цешыцца надзеяй, пераносіць прыкрасьці, трываць у малітве.

Пакута — гэта сьцежка, што вядзе да Жыцьця. Як ты капаеш яму, каб укінуць туды ўсялякую нечысьць, так у пакуце пахавай сваю недбайласьць, свае правіны і грахі- Так агароднік закопвае пад фруктовыя дрэвіны гнілыя фрукты, сухое лісьцё і адпады. Гэтак усё марнае або шкоднае пойдзе на карысьць і прынясе плод. Дык вучыся даваць сілу з заняпаду, а са сьмерці да жыцьця.

А Хрыстос яшчэ ня жыве ў табе. У тваіх мутных вачах бачыцца толькі няясны абраз Ягонай постаці. Мусіш ачысьціцца праз пакору і пакуту, дык тады вернеш сабе яснасьць вачэй і чыстую любоў Збавіцеля. І пазнаем Яго ў сабе — гэта Ён Самы!

А Хрыстос цярпеў, каб споўніць волю Айца . . . Ты таксама жадаеш выканаць волю Найсьвяцейшага Айца, ідучы сьледам Хрыста-Настаўніка, таму ня можаш жаліцца, што ў дарозе спатыкае цябе цярпеньне.

Скажы свайму целу: «Ты мусіш быць маім слугою, а не я тваім!» А як людзі баяцца пакуты! Каб тое, што робяць, каб падабацца сьвету, дый рабілі ў сьвятой інтэнцыі, з думкаю аб Богу — о, колькі мы мелі бы сьвятых сярод нас, вялікіх сьвятых!

Аднак ты плачаш з гора? Ня стыдайся сьлёзаў. І мужчыны плачуць у самоце, перад самым Богам. «Я ў ночы, — гаварыў Давід, — сьлязьмі абліваю маё ложа». Гэтымі гарачымі сьлязьмі зможаш ачысьціць сваё прошлае жыцьцё і накіраваць жыцьцё цяперашняе да Бога.

Я жадаю, каб ты быў шчасьлівы на зямлі. Але ня будзеш шчасьлівы, калі ня збудзеш страху перад цярпеньнем. Пакуль мы — ў «дарозе», дык у цярпеньні родзіцца шчасьце.

О, як прыгожая справа — аддаць тут жыцьцё дзеля там-таго жыцьця ў небе! Калі ты зразумееў, што цярпеньне ў душы і ў целе, ачышчаюць цябе і маеш заслугу ў Бога, дык багаславі гэты крыж ад Бога!

«Дай вам, Божа, здароўе!» Так жабракі ў нас гаварылі, дастаўшы ахвяру. Але ж ня ўсё шчасьце ў здароўі цела.

Калі мы з добрай волі і шчодра прыймаем пакуту, Хрыстос нам заплаціць сваей ласкай, што ахвотна прыймем крыж, які нам пасылае.

Ня шмат варта пакута, калі ня прыймеш цярпеньня. І ці ты баішся пакуты? той пакуты, якая табе паможа здабыць вечнае шчасьце?. . . Але ты сам бачыш, як людзі, каб ратаваць дачаснае жыцьцё, паддаюцца мукам і катаваньню дактароў на апэрацыі. Праўда, трэба даглядаць сваё цела, але толькі ў той меры, як пераносім лютага ворага.

Калі зразумееш, што тваё цела ёсьць тваім ворагам і ворагам Божым, бо не пазваляе табе асьвяціцца, дык чаму ты так песьцішся з сабою?

Хрысьце Божа! Пры Табе мецьбуду роскаш у цярпеньні, буду мець яснасьць ў вялікай цемры.

Ты церпіш? Паслухай: Ягонае цярпеньне і Ягонае Сэрца ня ёсьць меншае ад нашага. Калі церпіш, дык цярпець трэба!

Сьціслы пост — гэта ёсьць пакута вельмі мілая Богу. Але мы ўмеем аблягчаць сябе і мы занадта зрабіліся свабоднымі. Але гэта не памяншае табе, калі — за пазваленьнем твайго спаведніка — будзеш пасьціць часьцей.

Але чаму нам трэба пакутаваць? Так, трэба, бо гэта ёсьць адплата за крыўды (Богу і людзям), гэта ёсьць просьба і акт падзякі і гэта ёсьць прыгатаваньне да новае працы. Пакутаваць за мяне самога і за ўсіх бліжніх, за сваю Бацькаўшчыну, за сям'ю і за родных, за гэты край, за Царкву-Касьцёл . . . І тысячы іншых.

# Аб страшным судзе

(Духоўны верш XVII—XVIII стаг.)

Прыдзець час, і Госпад на воблацах слаўна
Прыдзець ўсіх судзіці са славаю яўна.
З войскам ангел і архангел бясчысьленных,
Сьвятых сабор праслаўленных.
Вазтрубіць архангел і мертвыі вазстануць,
А прад судам страшным нагіі паўстануць.
Там убогі, і скарб многі,
Там ўладыкі, і калекі —
Усі роўна стануць.
Царые і князі бяз слуг, без адзежды,
Бяз скарбаў, бяз жаднай надзежды,
Стануць нагі, без павагі, без радзіны,
Бяз дружыны, самі сабою.
Сядзячаму на прастоле мусяць атвет даці,
Як ся справавалі бяз боскай благадаці.
Ах мой Божа, паможа
Бо шатана зла, хітра здрада.
Бо там на вымовы ня зрацъ,
Ні на роды, ні на парсону,
Ні на прежны свары, хто што зробіць,
Хто што стварыў, люб благое, люб тэж злое,
Яўна там будзець
Ўся там дзелы нашы адкрыюцца яўна,
Грэшным на стыд вечны,
А верным на славу.
Што тут скрыта, там адкрыта;
Ўсё ўявіцца, аблічыцца
Там прад Тваім сьветам.
Які там стыд будзець, якая срамота.
Гдзе яўна там будзець, злым злая работа.
Ні сказаці, ні сьпісаці невазможна,
Бо ня ложна там ся то станець.
Патом Гасподзь крыкнець на злых:
Адыдзіце, а праклятыя людзі, да пекла ідзіце!
Ў якім страсе і вужасе будуць злыі,
Егда тыі словы услышаць.
А напотым Госпад ліцэм добразрачным
Воззрыць на сьвятых.
А голасам ўнятным ім прамовіць
І так ім мовіць: мэі друзі, маі слузі, ка мне прыйдзіце!
Насьледуйце царства і вечную радасьць.
Ні сказаці, ні сьпісаці невазможна,
Бо ня ложна там ся то станець.
Міласердны Божа, даждзь нам памінаці
Ўсягды суд Твой страшны, а не сагрaшаці.
Тут карай мя, тут зьмірай мя!
Адверзі злых, бо сьмех там будзець прад цэлым сьветам.
Кроў Твая сьвятая з рук, з рэбр, з ног пралітая.
Няхай будзець тою злосьць наша амытая.
Ў тым надзею і я мею,
Жэ ачысьціць і услышыць мяне грэшнага.

---

# Рэлігійная маніфэстацыя ў Лёндане

Як бараніць ненароджаных ад забойства?.. На зарганізаваным паходзе ішло да 90 тысяч народу ў пратэсьце з усяе Англіі і Валіі. Нясумленныя лекары праводзьяць перарываньне цяжарнасьці жанчын і сьмерць ненароджаных дзяцей. У паходзе дэлегаты несьлі букеты белых кветак на знак жыцьця, а кідалі кветкі перад дзьвярмі прэм'ера Вільсана на Довнінг Стрыт. Цяперашні ўрад успамагае рух-перарываць цяжарнасьць!

Маладая матка чацьвярых дзяцей, Эдвіна Фогг, прамаўляла супраць страху жанчын, каб не траціць кватэраў і аб браку працы дый труднасьцях выхаваньня дзяцей і наконт бругальнасьці мужчын. — Аднак усе такія цяжары не даюць права на забойства сваіх, родных-ненароджаных дзяцей, бо ўжо гэта л ю д з і!..

А малады француз прамаўляў аб 20 тысячах лекараў у Францыі і аб тысячах мэраў з францускіх гарадоў: яны адмовіліся памагаць ураду ў праекце перарываньня цяжарнасьці і таму праект у Францыі праваліўся!

А прамоўца Муггерыдж казаў: «Нельга аблягчаць сабе жыцьця праз сьмерць-забойства сваіх дзяцей!» Камуністы арганізавалі контр-маніфэстацыю, але гэтая ім не ўдалася!..

(Ад рэд.). Калі наш рэдактар прыбыў у Лёндан у 1960 годзе, дык да гэтага часу заўважыў у Лёндане відавочны спадак ліку дзяцей. Словам, Лёндан пусташэе: з 10-ці калісьці мільёнаў ужо даходзіць да 7-мі! Дык ня ведама, да чаго дайшоў бы? Але палажэньне ўратаваў афрыканскі Амін, які выкінуў у Англію масу ангельскага і азіязкага насельніцтва: гэтыя прыбылі зь вянкамі дробных дзяцей і ажывілі заміраючы наш горад. — Прычынай бязлюдзьдзя становіцца тут практыка бязстыдных лекараў, якія, ратуючы людзей старых, забіваюць ненароджаных!.. Ганьба лекарскаму стану і прызваньню дый цяжкі грэх супраць Божае запаведзі: «Не забівай!»

*а. Я. Г.*

# Весткі аб рэлігіі ў Летуве

Няма чаго таіць — плывуць сумныя весткі: усё народнае тут заглушаецца, а ўсё савецкае узносіцца. Стараюцца выхаваць моладзь у духу матэр'ялізму і бязбожнасьці: вечная прапаганда супраць рэлігіі і забараняюць бацькам, каб ня мешалі «выхаваць новага чалавека» праз школу, каб стаў малады чалавек «савецкім патрыётам».

Вядуць востры нагляд над сьвятаром, якую гаворыць казань? Наогул пра самога сьвятара: аб ягоным характары; аб чым гаворыць, ці мае плян, колькі часу мае казань, да каго зьвертаецца ў навуцы? і г. д. Колькі прыходзіць людзей у касьцёл, якія малітвы ў касьцеле, якія кніжкі ў руках? Ці сьпяваюць і што? Колькі ў касьцеле мужчын, жанчын, моладзі і дзяцей?..

Ці ёсьць арган, якія абразы, як убраны аўтар? Як сьвятар адносіцца да людзей і людзі да яго? Ці мае сьвятар радыё, тэлевізар, тэлефон, газэты якія і кніжкі? Ці бывае ён у тэатры і ў кіно? Ці гаворыць з дзецьмі?..

У якім стане касьцёл і будынкі? Якія аздобы ў касьцеле? Ці бывае працэсія і з чым? Ці ёсьць родная мова, званы, харугвы, ліхтары і інш.? Якія малюнкі, ці ёсьць электрыка, як доўга трывае набажэнства? А нават ці мае сьвятар і касьцельныя радыя машынкі да пісаньня і якога шрыфту. (Прысылаць абразчыкі друку). Даць нумары і фабрычную марку машынак!»

Вельмі пільна, каб дзеці ня прыслужывалі ў касьцеле і падыходзілі да аўтара! Калі хто памагае пры касьцеле ў рамонце, або будынках, дык праганяюць і забараняюць. Пракурор гор. Таўрогі выклікаў жанчыну, што папраўляла касьцельную адзежу і бялізну, каб ня сьмела гэтага рабіць», «бо перавядзём цябе на казённы хлеб», значыць, у турму. А адным месцы старая жанчына прадавала крыжыкі, абразікі, ражанцы, — як выходзіў народ з касьцёла, дык міліцыя адабрала увесь «тавар», а самую хацела арыштаваць, але хітрая баба зручна схавалася ў народзе.

Вучням у школах даецца вымога адказаць на дзесяткі пытаньняў на пісьме: «Ці вераць тваё бацькі? Ці моляцца у хаце? Ці бывае у вас сьвятар? Ці жагнаюцца вашыя пры стале? Ці ёсьць абразы? Ці ты верыш у Бога? Ці молішся? Ці быў у першай споведзі? Калі быў апошні раз у касьцеле?» і г. д.

*

У Летуве яшчэ ёсьць у г. Каўнасе духоўная сэмінарыя, але пастаўлена граніца, колькі можна прыняць кандыдатаў? На кожны год іншыя варункі: 5, 6 — да 10-ці кандыдатаў. Таму, значыць, не хапае духавенства, бо паміраюць, хварэюць або забароненыя (пакараныя) сьвятары, дык парахвіі астаюцца без пробашча і гэтак зьяўляецца аказаія зачыніць сьвятыню. Такая палітыка атэізму, хоць выхваляюць у Летуве «свабоду» рэлігіі...

Кнігі Сьвятога Пісьма пазволілі надрукаваць у незначнай колькасьці; аднак прадажа была агранічаная — па пару кніжак на парахвію; а кнігі з друкарні недзе пагінулі? За граніцу лягчэй было выпісаць, чым на месцы ў Летуве...

Дзейныя веручыя трапляюць пад розныя арышты і суды; але заўсёды суд паказвае іншыя прычыны, каб ня выказываць рэлігіі.

Пратэсты веручых людзей і просьбы ў справах рэлігіі ня прыймаюцца пад увагу: урады не даюць ніякага адказу. Скаргі падпісаныя дзесяткамі тысяч людзей выклікалі рэзананс адваротны — прасьлед тых, хто падпісываў.

За часаў царскіх у Расеі праз доўгія гады вяліся націскі прасьлед Каталіцкага Касьцёла, асабліва ў гадох ад 1825 да 1905-га, аднак Савецкі Саюз ня толькі не зьняў царскага рэжыму, але яго бязьмерна узмоцніў. На дзіва, некаторыя спосабы прасьледу — пад уплывам атэізму, бальшавізм пераняў ад царскый дыктатуры і яшчэ з горшым націскам, карамі і уніжэньнем рэлігіі! Прытым тасуецца цынічнае лгарства, аб «свабодзе» веры, набажэнстваў і пракананьняў. Нават самі бязбожнікі насьледуюць набажэнства і цэрэмоніі рэлігіі праваслаўнай і каталіцкай пры аказіі хрэзьбінаў, шлюбоў і паховінаў, — так называныя «сьвецкія паніхіды» і інш. Гэтак чорт убіраецца ў духоўныя рызы, але вядзе на пагібель...

*Я. Жмогус*

## *З агульнага царкоўнага жыцьця*

ЛІТУРГІЯ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ: У канцы мінулага году Апостальскі Пасад выдаў дырэктывы адносна сьвятой Літургіі (Імшы сьв.) ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, якія нядаўна прыступілі да сьв. Камуніі (Прычасьця), або да яе рыхтуюцца. У гэтым узросьце дзеці ўжо карыстаюцца сьвятымі Тайнамі (Сакрамантамі), асабліва сьв. Літургіяй, якая ёсьць цэнтрам і крыніцай хрысьціянскага жыцьця. Таму вялікая справа і важная вельмі, каб дзеці найраней навучыліся правільна і з прыемнасьцяй учасьнічаць у Літургіі, каб прывыкалі да яе — аж да таго, што ўжо самі пажадалі бы хадзіць на Імшу ў працягу жыцьця — бяз ніякае прынукі. Інакш яны трацяць да на-

бажэнства ўсялякую ахвоту і перастаюць хадзіць да касьцёла (ці ў царкву).

Вось гэтай мэце і служыць успомнены ДАКУМАНТ, у якім гаворыцца, што трэба рабіць, каб найбольш прыблізіць сьв. Літургію дзецям. Перад усім трэба, колькі магчыма, учыніць яе для дзяцей зразумелай і таму пазволена ўвесьці некаторыя зьмены, каб дастасаваць да дзіцячага розуму і пачуцьцяў; аднак нельга адмяняць сутнасьці і вынаходзіць «новы абрад». Для прыкладу: некаторыя малітвы і словы, якімі сьвятар зьвертаецца да дзяцей у пачатку сьвятой Літургіі, а нават часам і ў сярэдзіне, можна замяніць больш зразумелымі, але захоўваючы іх зьмест. Нясутныя сказы і словы, якіх нельга выразіць для дзяцей, пазваляецца зусім апусьціць. Чытаньні Сьвятога Пісьма ў выпадку патрэбы можна замяніць больш для дзяцей адпаведнымі і зразумелымі, асабліва тымі, што адносяцца да дзіцячага жыцьця, стасоўна да літургіі дня. Тое самае адносіцца да псальмаў і гімнаў, якія дзеці сьпяваюць ці рэцытуюць. Ня можна зьмяняць таго, што адказываецца сьвятару; а гэта таму, каб дзеці маглі і ўмелі разам маліцца са старшымі і бываць на агульным набажэнстве. Усе людзі маюць вялікі абавязак, каго гэта датычыць, сыстэматычна выясьняць дзецям сьв. Літургію.

Але дзеці павінны ня толькі разумець сьв. Літургію, як і сьвядома дый актыўна ў ёй удзельнічаць. Трэба іх якнайбольш у ёй з а н я ц ь. Таму яны сьпяваюць песьні, рэцытуюць псальмы самі, або з дарослымі: чытаюць сьв. Пісьмо, прыносяць-падаюць д а р ы (хлеб і віно) на аўтар, ідуць сьпяваючы ў працэсіі да сьв. Камуніі і г. д. Яны таксама іграюць на сваіх інструмантах, якія, як і сама музыка, павінны адпавядаць духу сьв. Літургіі. — Усё мае быць як найбольш датасавана да умысловасьці, пачуцьцяў і духовых патрэбаў дзяцей. І гэта ёсьць так важная справа, што, калі сам сьвятар не пачуваўся бы здольным гаварыць да дзяцей, дык яго можа замяніць чалавек сьвецкі, да гэтага адпаведна прыгатаваны і таленавіты. Калі ж дзеці бываюць толькі самі на сьв. Літургіі, дык іхны удзел у ёй яшчэ павялічваецца больш!..

Як датасаваць сьв. Літургію да ўчасьніцтва ў ёй дзяцей, аб чым ідзе мова ў Дакуманце, рашаюць Біскупы або Кангрэсы Біскупаў. Прадбачыцца апрацаваньне спэцыяльнага Імшалу, значыць, кнігі з тэкстам і прыпісамі для Літургіі дзяцей.

# Новы абрад Сакраманту (Тайны) Споведзі

У лютым г. г. ў Ватыкане апрацаваны быў новы абрад Споведзі — «Парадак Пакуты». Прыпомненая навука Царквы аб Сакраманце Споведзі (Пакуты) і падаюцца тры спосабы, як адпраўляць Таямніцу Пакуты. Даўней гаварылася: «Адбываць Споведзь», а цяпер ужываецца слова паважнейшае — «Адпраўляць» або «Цэлебраваць» — так як і сьв. Літургію. Так падкрэсьлены літургічны характар гэтага Сакраманту Пакуты-Споведзі.

НАВУКА ЦАРКВЫ АБ СПОВЕДЗІ: Гэты Сакрамант устанавіў Сам Ісус Хрыстос: даў Апосталам і іхным насьледнікам у л а д у адпушчаць грахі, кажучы: «Каму адпусьціце грахі, таму яны будуць адпушчаны, а каму затрымаеце, таму будуць затрыманыя». (Ян 20, 23). Гэтую ўладу Апосталы пераказалі Біскупам, а Біскупы даюць уладу Сьвятаром. Біскупы і Сьвятары выконваюць гэтую ўладу ад імя Самога Бога і ад імя Царквы. Так Сакрамант Пакуты зьяўляецца доказам вялізарнай Дабраты і Божага Міласэрдзя. У Пакуце чалавек атрымлівае адпушчэньне грахоў і поўны супакой сумленьня, абы толькі выказаў перад сваім спаведнікам шчыры жаль і пастанову папраўы жыцьця, як і адплату Богу за абразу і людзям за крыўду.

Сутныя часткі Пакуты: ж а л ь за грахі, пастанова папраўы жыцьця, — вынаграджэньне Богу і людзям, вызнаньне грахоў перад спаведнікам і разграшэньне ад грахоў (абсалюцыя). Значыць, найважнейшая справа: жаль і паправа жыцьця — наварот да Бога! Таму гэта самая сутная справа Пакуты, бо і дзеля гэтага Бог чалавеку адпускае грахі, калі б чалавек ня выканаў іншых варункаў, напрыклад, не адбыў споведзі праз нястачу часу — у выпадку раптоўнае сьмерці, ці ня было доступу да сьвятара. Але пры недахваце першых умоваў (жаль і пастанова направы) Споведзь была бы няважнай!

Трэба моцна падкрэсьліць пазытыўны вынік Пакуты: нятолькі адпускаюцца грахі, але Споведзь яднае нас з Богам і з Царквою і таму называецца Сакрамантам Паяднаньня! Паяднаньне аднаўляе сувязь з Богам і з Царквою, што зрываецца цяжкімі грахамі: адраджаецца душа ў Божай ласцы. Другі вынік Сакраманту Пакуты — гэта ягоны характар грамадзкі. Раней Споведзь адбывалася індывідуальна. Цяпер паводле новага парадку:

1) Першы спосаб. Як і даўней, кожны чалавек можа папрасіць аб споведзь і атрымаць разграшэньне — адзіночна.

2)Другі спосаб: Прыходзяць грамада людзей і яны разам рыхтуюцца да споведзі: чытаюцца супольна малітвы уступныя; пасьля узбуджаецца разам жаль за грахі; зрабіўшы рахунак сумленьня дый моцную пастанову папраўы. Гэта

найлепш — пад кірункам сьвятара. Тады самую споведзь кажны адпраўляе сакрэтна-індывідуальна. Тады супольна малітвы, падзяка Богу і сьвятарскае багаславенства. Далучаецца чытаньне Сьв. Пісьма перад споведзяй, а і пасьля, як магчыма, калі бывае многа людзей.

3) Трэці спосаб: У выпадку, калі грамадзіцца занадта шмат народу і сьвятар ня зможа ўсіх спавядаць асобна, магчыма, супольна прыгатаваўшы, каб кажны атульна спавядаўся з усім народам і атрымаў супольнае разграшэньне. — Пра гэта ўжо пісалася ў «Божым Шляхам».

*

АБ НАБАЖЭНСТВЕ ДА БОЖАЕ МАЦІ. — Нядаўна у г. г. Папа Павал VI выдаў Пасланьне да ўсіх Біскупаў, у якім выказаў жаданьне апошняга Сабору; высьсьняючы гэтае набажэнства, заахвоціў пашыраць такое сярод вернікаў. — Аб зьмесьце папскага Пасланьня даецца тут асобны артыкул у гэтым нумары часапісу...

# Папская Камісія для рэвізіі ўсходняга права

Дагэтуль Каталіцкія Цэрквы розных абрадаў маюць толькі частку ўсходняга права апрацаваную ў форме кодэкса і пацьверджаную Апостальскім Пасадам. Папа Павал VI паклікаў новую Камісію і даручыў ей перапрацаваць існуючыя часткі кодэксу і апрацаваць далейшыя. Заўважым, што існуе таксама Папская Камісія для рэвізіі лацінскага царкоўнага права на чале з кардыналам Фэлічі, быўшым Сакратаром II-га Ватыканскага Сабору.

Старшынёй Камісіі для рэвізіі ўсходняга права ёсьць Кардынал Язэп Парэкаттіль, гіндус, абраду Малянкаррэзаў; сакратаром — Архібіскуп Клэмэнт-Ігнат Мансураті, Мітрапаліт абраду Сырыйскага. Сябрамі Камісіі зьяўляюцца Патрыярхі, Мітрапаліты, Архібіскупы і Біскупы ўсходніх Цэркваў, а таксама некаторыя кіраўнікі Папскай Курыі. Ад беларусаў належыць да Камісіі Біскуп Ч. Сіповіч.

Дня 18 сакавіка 1974 г. Павал VI адправіў сьв. Літургію ў сыкстынскай капліцы ў прысутнасьці сяброў Камісіі, дыпляматычнага корпусу пры Ватыкане і розных асабістасьцяў. У сваей прамове Папа сказаў, што заданьнем Камісіі ёсьць не тварыць зусім новае права, але ўпарадкаваць існуючае згодна с традыцыяй паасоб-



*Папа Павал VI адслужыў сьвятую Літургію*



ных Цэркваў і паводле прынятых пастановаў апошняга экумэнічнага Сабору.

Камісія працавала праз цэлы тыдзень. Паседжаньні адбываліся ў новазбудаванай сынодальнай залі. Прамоўцы ўжывалі апрача лацінскай розныя сучасныя мовы. Былі прысутныя таксама абсэрватары розных хрысьціянскіх Цэркваў, якія ня ёсьць у кананічнай еднасьці з Каталіцкай. Некаторыя зь іх прамаўлялі на паседжаньнях. Расейскі Біскуп Герман між іншым у сваей прамове сказаў, што для яго каталікі заходняга (лацінскага) ці ўсходнага абраду не становяць розьніцы: усе адзінакава зьяўляюцца братамі ў Хрысьце. Украінскія і румынскі Біскупы гаварылі аб паложаньні іхніх афіцыяльна «зьліквідаваных» Цэркваў. Дух шчырасьці і хрысьціянскага братэрства выразна лунаў у залі заняткаў Камісіі.

*

СУСТРЭЧА ЗЬ НЯ-ХРЫСЬЦІЯНАМІ: Сёлета Ватыканскі Сэкрэтарыят для справаў не-хрысьціян сьвяткуе 10-ці годзьдзе існаваньня. Таму наладжаны сустрэчы з прадстаўнікамі важнейшых нехрысьціянскіх рэлігіяў, як з жыдоўскай, з магамэтанскай, буддыйскай і з інш. У самой Эўропе лічыцца 10 мільёнаў музульманаў і 3 міл. буддыстаў. Мэтай гэтых сустрачаў мае быць: узаемнае пазнаньне духовых багацьцяў паасобных рэлігіяў; супраца, як рашаць праблемы сучаснага сьвету і супольная дапамога ў недамогах.

Ужо адбыліся некаторыя заплянаваныя сустрэчы ў Эўропе, Азіі і ў Афрыцы. У Індыі было спатканьне з буддыстамі, на якім удзельнікі дайшлі да выснаву, што цяперашні сьвет ня толькі стварае перашкоды для веручых, у выкананьні рэлігійных абавязкаў, але сваім навуковым прагрэсам і мадэрнай тэхнікай мог бы ім нямала дапамагчы. Тымчасам розныя рэлігіі павінны супольна і ўзаемна дапамагаць у патрэбах, якія узьнікаюць у матэр'ялістычнай цяперашняй культуры і індыфэрэнтнага стылю жыцьця.

*

## КАНГРЭСЫ У ЧЭСЬЦЬ ДЗЕВЫ МАРЫІ

У часе Сьвятога 1975 ГОДУ у Рыме маюць адбыцца два Кангрэсы: адзін сьцісла навуковы 15—25 мая: а другі будзе прысьвячаны разьвіцьцю набажэнства да Божае Маці 18—21 мая. Навуковы Кангрэс мае тэму: «Сьвяты Дух, а Дзева Марыя». Другі прадставіць набажэнства да Божае Маці у XX стаг. Папярэднія Кангрэсы ўжо апрацавалі гэтую тэму адносна пэрыяду ад пачатку хрысьціянства да XI-га стаг.

*

## ГОД ЖАНЧЫН

Ватыканскае Радыё паведаміла, што Год 1975 прысьвячаецца таксама жанчынам. З гэтае прычыны Камісія для Справаў Жанчынаў, якая працуе ўжо тры гады, ня будзе зьмяняць свайго складу і яна прыгатавала на гэты Год паважную тэму: «Роля чалавека ў Божым пляне стварэньня асобы». А таксама: «Роля жанчыны ў місіі Царквы і месца жанчыны ў сучасным грамадзтве — паводле дырэктывы Ватыканскага II-га Сабору».

*

## ДЫЯЛЁГ ЗЬ НЯВЕРУЧЫМІ

15 сакавіка г. г. Папа прыняў на аўдыенцыі членаў Ватыканскага Сэкрэтарыяту для Справаў Няверучых, які ў гэтым месяцы меў сваю пленарную зборку. Папа падкрэсьліў вялікае значэньне іхняе працы для Царквы, якая мае задачу, паручаную Богам, ісьці да ўсіх людзей — веручых ці няверучых з Божым Словам аб збаўленьні чалавека. Гэты Сакратарыят на тое і заснаваны, каб спатыкацца зь людзьмі, уваходзіць зь імі ў дыялёгі; студыяваць іхны падыход да рэлігіі і іхныя праблемы адносна веры ў Бога. І усё скіраванае да таго, каб памагчы ім знайсьці дарогу да Бога.

Павал VI-ы сказаў, што ён ведае, якая гэтая праца ёсьць цяжкая і адказная. Тут спаўняюцца Гасподнія словы, што «іншы сее, а іншы зьбірае». Але гэтая праца ёсьць неабходная і штораз шырэйшае поля адчыняецца перад Царквою! Яна ўсё ж аснована на надзеі на Божую дапамогу і на добрую волю няверучых, між якімі нямала гатовых супрацоўнічаць для агульнага дабра і шуканьня праўды.

Папа прыпомніў перасьцярогу Сабору пад адрасам веручых, што атэізм больш пашыраецца імі, чым няверучымі . . . Бо мы, жывучы згодна з нашай верай, да якой вонкава прызнаёмся, спрычыняемся да згаршэньня сярод людзей слабой веры або блудзячых у веры, дык няверучыя маюць фальшывае паняцьце — з нашае віны — аб Богу і аб рэлігіі . . .

*

## СПРАВА ПЕРАНАСЯЛЕНЬНЯ СЬВЕТУ

Нядаўна ў Ватыкане гасьціла дэлегацыя ад Сусьветнай Канфэрэнцыі для справы насяленьня зямлі. Між іншымі былі прысутныя Прэзэс Канфэрэнцыі і дырэктар фонду на патрэбы людзтва пры Аб'едных Нацыях. Гэты дырэктар арганізаваў сялетні абход «Г о д у  н а с я л е н ь н я», які будзе асабліва адзначаны ў жніўні у гор. Букарэшце. — Папа з прычыны нездароўя ня мог прыняць гэтае дэлегацыі асабіста, а толькі праз Сакратара Війё дарučыў ім Дакумант-Мэморыял, ў якім прадставіў становішча Апостальскага Пасаду адносна праблемаў, выкліканых раптоўным узростам насельніцтва зямлі. Гэтымі праблемамі ў многіх краях выкліканы голад, брак памешканьняў, заработку, а таксама хваробы і інш. няшчасьці. Некато-

рыя народы, ідучы за навучаньнем матэр'ялістаў, імкнуцца радыкальна рашаць труднасьці — ці праз недапусканьне нармальнага пачацьця, або праз забойства ненароджаных. Царква ня можа пагадзіцца з такой нялюдзкой палітыкай, бо ужываецца прымус і сродкі нязгодныя з Божым правам і чалавечай годнасьцяй.

Увесь сьвет, кажацца ў папскім Дакуманце, павінен змагацца . перанасельніцтвам. Царква таксама ня ёсьць у гэтай справе абыякавай. І Царква, дзе толькі можа, — згодна з сваім прызваньнем — выходзіць на стрэчу матар'яльным і духовым патрэбам людзтва. Але Царква ўпэўнена, што можна многа паменшыць цярпеньні, ня ўжываючы сродкаў праціўных Божаму праву і людзкой годнасьці. Як напр.: прызнаць усім людзям, як адзінкам, так і народам свабоду, якой дамагаецца чалавечая годнасьць. Увесьці сацыяльна-грамадзкую справядлівасьць і справядлівы падзел матар'яльнага дабра і бытавых сродкаў. Памагаць бедным краінам у іхным эканамічным разьвіцьці, у эдукацыі, без якой ніякі прагрэс ня будзе магчымым. Памагаць у ахове здароўя.

Гэта ўсё — найважнейшыя і найпільнейшыя патрэбы, бо яны ёсьць сутныя для супакою і да паправы ў матэр'яльнай сытуацыі няшчасных краінаў!

Царква праканана, што Бог не пакіне чалавецтва ў безнадзейнасьці і паможа яму — пры сучаснай навуцы і тэхніцы — яшчэ лепш і больш выкарыстаць багацьце зямлі і знайсьці разумныя спосабы кантраляваньня прыросту насельніцтва — згодна з Божай воляй і сапраўдным людзкім дабром, абы толькі людзі чынілі ў гэтым напрамку магчымыя высілкі, натхнёныя справядлівасьцю і любоўю бліжняга.

*

## ДЗЕНЬ СРОДКАЎ МАСОВАГА ПЕРАКАЗУ

Гэты ДЗЕНЬ сьвяткуецца (на загад Сабору) у нядзелю пасьля Вялікадня. Мэта яго: Прыпамінаць хрысьціянам аб правільным — бяз шкоды для душаў — ужываньні сродкаў масовага пераказу, як радыё, тэлебачаньне, кіно, прэса і інш. Дый трэба іх выкарыстаць для рэлігійных мэтаў. Сабор навучаў, што «кажны чалавек мае права інфармаваць другіх і быць інфармаваным згодна з праўдаю!»

Сёлета гэты Дзень быў прысьвячаны таму, каб ужываць гэтых сродкаў для эвангелізацыі сьвету: гэтым мае заняцца таксама і будучы Сусьветны Папскі Сынод Біскупаў у наступным годзе. Гэтыя сродкі, як і кажнае дабро, ёсьць Божым дарам. Таму яны павінны служыць нятолькі для дачасных патрэбаў і выгоды чалавека, але і патрэбам духовным — пераказу, апавяданьню Божага Слова, якога так спрагнены цэлы сьвет! І так малілася Царква ў гэтакай справе таго Дня.

«Малімося! Госпадзе Ісусе Хрысьце, праз Твой выход да людзей, што Ты стаўся адным з нас і падобным ува ўсім, апрача граху! Ты перадаў нам Божую Праўду ў словах і вобразна, тасоўна да нашых людзкіх спосабаў разуменьня. Навучы нас дастасаваць нашае прапаведаньне сьв. Евангельля да патрэбаў нашага часу, каб усе людзі пазналі Цябе. Божага Сына і Збавіцеля сьвету. Які жывеш і валадаеш навекі. Аман!»

*

## СЬВЯТЫ ГОД 1975 НА ХВАЛЯХ ЭТЭРУ

На запрашэньне Ватыкану 7 красавіка г. г. адбылася нарада прадстаўнікоў Радыё і Тэлевізіі Эўропы і Паўн. Амэрыкі аб справе Юбілейнага 1975 Году. Разважалі справу інфармацыі сьвету аб Сьвятым Годзе і супрацу з Папскай Камісіяй дырэкцыяў Радыё і Тэлевізіі. Пасьля Папа прыняў прадстаўнікоў на аўдыенцыі і выявіў надзею, што пры іхняй помачы карысьці Сьвятога Году будуць больш даступныя ўсяму сьвету. У гэтых Кампаніях працуюць людзі розных рэлігійных пракананьняў, таму супраца зь імі ёсьць доказам іхняе добрае волі і зразуменьня экумэнізму.

*

## ЯК ПРЫБЛІЗІЦЬ ХРЫСЬЦІЯНСТВА ДАЛЁКАМУ ЎСХОДУ?

У прошлым годзе адбылася Канфэрэнцыя Біскупаў Японіі, Карэі, Вьетнаму, Гонконгу і інш. усходніх. Пераважна была пасьвячаная усходу, як дастасаваць хрысьціянства да ўсходніх культурных абычаяў і рэлігійных традыцыяў усходніх народаў? Адзін з кітайскіх Біскупаў сцьвердзіў, што «паміма апостальства і місіяў многіх вякоў, аднак жа хрысьціянства там наогул мала ведамае і чужое. А гэта таму, што Хрысьціянства апавядаецца ў чужой форме, хоць ягоны зьмест няраз супадае са зьместам іхных старых рэлігіяў. Ён зьвярнуў увагу між іншым на чужасьць архітэктуры ў хрысьц. сьвятынях, на форму літургічных абрадаў, хоць ужо шмат што зьмянілася на карысьць дастасаваньня, напр., замест кленчыць, творыць паклоны; таксама зьмянілі коляр літургічнае адзежы і г. д. Ужо ад значнага часу ў краінах усходу Біскупы і іхнія Камісіі студыююць справы адаптацыі формаў культу і ўводзяць адпаведныя зьмены.

*

## СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ КАРДЫНАЛ СТЭФАН ТРОХТА

Памёр ён 7 красавіка г. г., маючы 69 гадоў жыцьця. Славак, паходзіў з Маравіі. Стаўся сьвятаром у 1932 г. Пасьля наезду немцаў на Чэха-Славакію гітлероўцы саслалі ў лягер Матгаўзэн, дзе прабыў да канца II-ой Сусьветнай

вайны. Калі вярнуўся ў свой край, Папа Пій XII ў 1947 г. назначыў яго Біскупам, але хутка камуністы засудзілі яго за «вялікую здраду народу» на доўга-тэрміновую вязьніцу, дзе прабыў да 1968 г. Як звольнілі яго, ён быў тады адзіным Біскупам на цэлы край, у якім было 11 дыяцэзіяў!

У 1969 г. Папа Павал VI сакрэтна назначыў яго кардыналам, але да 1973 г. публічна ня было гэта аб'яўлена. Нарэшце камуна дала яму дазвол паехаць у Рым, да Папы на прыняцьце кардынальскіх адзнакаў.

Падобную долю меў Кардынал Чэскі Бэран, арцыбіскуп Прагі. Ён правёў тры гады ў лягеры гітлероўскім у Дахаў (1943—1945) і 12 гадоў у камуністычных турмах (1951—1963). У 1965 едзе ў Рым, дзе атрымаў годнасьць Кардынала. А ў 1969 памёр.

# Ліст у рэдакцыю „Божым Шляхам“ Супэрыора Айцоў Марыянаў

У газэце «Беларускі Голас», Нр. 221, с. 4, якая выходзіць у Таронто, яе рэдакцыя зьмясьціла выдуманую вестку: быццам трох Марыянаў мела прыехаць у Нью Ёрк з Англіі і залажыць свой місыйны асяродак паблізу ўспомненага гораду. Марыяне, падобна як і ўсе іншыя каталіцкія законьнікі, залежаць ад свайго Старшага (Генерала) і ад Апостальскай Сталіцы, а не ад якойсьці арганізацыі. Як дагэтуль Айцы Марыяне не зьбіраліся і не зьбіраюцца пераехаць у Зл. Штаты. За тытул «вуніяцкіх наваражчавацеляў» мы не абражаемся. Папера ... усё сьцерпіць, нават той фальш, які сеіць сярод сваіх чытачоў «Беларускі Голас».

а. Ф. Журня
Супэрыор Лёндансага Дому
Айцоў Марыянаў

## *Пішуць да нас*

*А. Бостонскі*

# На поўначы Пастаўшчыны

(Успаміны)

У 2-ім квартальніку «Божым Шляхам» аб атэісту і радунскім сьвятару мне прыпомнілася далёкая мінуўшчына, як адзін няпісьменны чалавек зьбянтэжыў атэіста — ажно ўсе маладыя зь яго сьмяяліся! У вёсцы, што стаіць на берагу ракі Паловіцы жыў прапагандысты атэісты Сімук, які лічыў сябе вучоным, бо скончыў гарадзкую школу у Паставах. Датуль быў хлапцом верючым і ветлівым, але вайна сапсавала яго: вярнуўшыся, пачаў блюзьніць супраць веры; набраў сілы і проста здэмаралізаваў вёску, — аж маладыя перасталі хадзіць у царкву!

Недалёка ад вёскі Сімука была другая вёска — батрацкая — на пясчаным узгорку, пасярод лесу; там дзьве хаты былі безьзямельныя, а дзьве мелі паўтары дзесяцінаў зямлі. Наогул усе бедныя былі і адзін з іх, Андрэй, жыў у курнай хаце дый паехаў у Сібір на пасяленьне. Але і там ён не разжыўся: засумаваў па родным краі і вярнуўся назад. Хоць змураваў нармальную печ і палажыў у хаце падлогу, але жыў зь бядою і працаваў наймітам вельмі цяжка. Вясной хадзіў на раку Дзісенку і ганяў ганкі ў гор. Рыгу — так і зарабляў.

У бядзе гараваў найбольш аб тым, што быў няпісьменны і казаў: «Я — сьляпы! Каб хоць мог чытаць-пісаць, дык дастаў бы лепшую працу, а так ...». А тымчасам дзеці радзіліся ...

Нарэшце Андрэю ўдалося стаць лясьнікам і ягоныя гаспадары далі яму невялікі участак зямлі, — тады ўжо гора ня было, бо мелі хлеб і да хлеба. А час браў сваё: Андрэй пастарэў і ў яго было ўжо адзінаццаць дзяцей; але ня жыў у батрацкай хатцы, дый меў свой хутарок. За сваю службу ў лясьніцтве атрымаў 6 гэктараў зямлі — аж стаў гаспадаром лепшым ад іншых. На ягоным хутары стаяў ужо прыгожы дом і такі прасторны, што ў ім кожнай нядзелі зьбіралася моладзь.

Андрэй вельмі ганарыўся тым, што ў ягоным доме вяліся даклады, на якіх ён прысутнічаў; уважліва слухаў даклады і навіны. Любіў, як хто з моладзі дэкляімаваў беларускія вершы, а як сьпявалі, тады і сам падцягваў, бо меў добры голас. А калі падвесяліўся, дык здаволены гаварыў: «Я — сяньня генэрал, а можа й прэзыдэнт? Што большае мне патрэбна? .. Цешуся тым, што ўсё тут маю і адзінаццаць здаровых дзяцей; а

усё Бог мне даў і я здабыў сваей працай і пакідаю дзецям», а ўсе мае дзеці пісьменныя, — ня так, як я сам. —

Кажуць людзі: «Хто гора не бачыў, той і шчасьця не разумее». Але Андрэй глынуў досыць усяго у сваім жыцьці, аднак не памыліўся, калі называў сябе і генэралам і прэзыдэнтам. Казаў: «Ня трэба жалець таго, што мінула, а карыстаць з таго, што ёсьць і ня жыць на пустое». — Уставаў ён вельмі рана, аглядаў гаспадарку, будзіў сыноў, загадваў кажнаму работу; сам заглядаў у кухню і памагаў гаспадыні. Калі ж там ня было работы, тады даглядаў скаціну, ці папраўляў платы ля хутара ці што іншае, каб не сядзець без работы.

Вось адным сьвяточным днём, калі ў іх сабралася моладзь, прыбыў да іх, хоць ня прошаны, той ведамы атэісты Сімук. — Добрая ў цябе хата, — сказаў Сімук.

— Лепшай ня мог збудаваць, — адказаў Андрэй. — Ты ў спадчыне ад бацькі атрымаў зямлю і хату, а мне трэба было самому нажываць адно й другое.

А Сімук кажа: «Мой бацька быў дурань, што набываў зямлю. Каб я ня меў зямлі, дык жыў бы я ў Амэрыцы».

— Эх, ты — скаціна! — падумаў Андрэй. Бацьку зьневажаеш за дабро і за адукацыю. — Але толькі падумаў так й нічога не сказаў, бо быў чалавек далікатны і асьцярожны ў дзеле і ў слове: ён, напрыклад, не адразу хапаўся за работу, а пастаіць і падумае. Затое пасьля ня трэ было перараблять. Таксама і ў слове: баяўся каго пакрыўдзіць у гутарцы, каб пасьля й самому не жалець. Калі бывала што скажа, дык іншым было што паслухаць.

— Можа й я паехаў бы ў Амэрыку, але я кінуўся у Сібір. Там пэўна атрымаў бы зямлю дарма, але цягнула мяне ў родны край, дзе радзіўся і вырас. Значыць, я вярнуўся сюды і не жалею.

На гэта Сімук: — Паміж табой і мной розьніца, як зямля і неба. Табе толькі і жыць тут і даглядаць скаціну. А я вучыўся ў Паставах; быў на вайне, бачыў гарадзкіх, разумных людзей, якія адчынілі мне вочы і я ўбачыў сьвет. Я чытаю кнігі. Адну маю пры сабе і дзеля таго ўзяў яе з сабой, каб пачытаць табе.

Гэтыя словы моцна кальнулі Андрэя, але ўсё ж ён заўладаў сабой і пазволіў Сімуку прачытаць выбраныя ім часткі з блюзьнерчай брашуры. А ў канцы кніжкі быў зварот да чытача: «Чаго навучыла вас гэтая кніга?».

— Што ж? — казаў Андрэй: — Апрача хлусьні і брахні тут нічога разумнага ў ёй няма. Дык толькі дурань той, хто яе носіць і іншым чытае, бо тут самая недарэчнасьць!

Сімук страшэнна узбурыўся: яго спаткала неспадзеўка, бо дасюль ніхто яму не запярэчыў — ажно падскочыў і ўжо рыхтаваўся нешта гаварыць, але Андрэй затрымаў яго:

— Ты гаманіў больш чым трэба было і я цярпліва слухаў: цяпер жа мая чарга: слухай дый адказвай на мае пытаньні. Ты укалоў мяне, што я нячытэльны: мне вельмі цяжка і сорамна. Бацька мой быў батрак. Калі ты хадзіў у школы, дык я быў падпаскам. Мы мелі паўтары дзесяціны зямлі і я мусіў з малога працаваць і зараблять кусок хлеба сабе і малодшым дзецям, бо нас было больш у хаце. А твой бацька меў магчымасьць і стараўся цябе вучыць; а ты яго за гэта зьневажаеш. Цяпер, калі ты такі разумны і вучоны, дык скажы нам, хто заваяваў Сібір?

Тут Сімук зразумеў, што трапіў у сьляпы кут: стаў загаварываць другое, але Андрэй ясна дамагаўся адказу: — Ты — вучоны, павінен гэта ведаць.

— Расея заваявала Сібір, — адказаў Сімук.

— Добра, але хто стаяў на чале расейскага войска і калі гэта здарылася? — не даваў спакою Сімуку.

Сімук зусім зьбіўся з тропу і нарэшце мусіў прызнацца, што ня ведае.

— Вось табе і маеш! — казаў Андрэй. — Ты палез вельмі высока — аж навучаеш, што Бога няма; а ня ведаеш важнае справы. А Сібір заваяваў Ярмак. Было гэта ў пачатку шаснаццатага стагодзьдзя, за часаў Івана Гразнага. Нават скажу табе, якой сьмерцяй памёр Ярмак: ён утапіўся ў рацэ Іртышу.

Далей трываць Сімук ня мог: хутка ўстаў, нават забыўся падаць руку Андрэю і пляснуў дзьверамі. У грамадзе моладзі падняўся рогат — аж не маглі супакоіцца! Аднак сам Андрэй не рагатаў, ён толькі крыху усьміхаўся; а калі моладзь сьціхла, сказаў: — Ня сьмейцеся, дзеткі, каб тым не саграшыць. Аб гэтым чалавеку трэба толькі пажалець. А ў Сьвятым Пісьме сказана: «Гора сьвету ад спакусаў; спакусы мусяць прыйсьці, але гора таму чалавеку, праз якога спакусы прыходзяць». (Матэй 18, 7).

— Адкуль, дзядзька ведаеш, — пыталіся ў яго, — што кажа Сьвятое Пісьмо?

— Дзякую Богу, маю добрую памяць і дзеці чытаюць, а я слухаю. Дый сьвятар у царкве чытае на Багаслужбе, дык я амаль увесь Божы Закон ведаю. — А пасьля жэўжыкі дражнілі Сімука: «А хто заваяваў Сібір?» — Дык Сімук ужо сьцярогся, каб не спаткаць Андрэя...

*

Дарагі і Паважаны мой Настаўнік!

Вельмі дзякую за кніжку і за вашыя вершы, якія чытаю па кожнай фразе, каб добра зразумець, што і ў чым крыецца? Надта ўдалыя вершы! Гэта мараль і крытыка характару чалавека дый ягонага жыцьця. Вершы таланавітыя і цёмкія: можна хутка дагадацца, аб чым ідзе

рэч. Гумарыстыка, але часам трэба устрымацца і абдумаць, у чым справа? Уканцы ўсё зразумела і ясна. Байкі Крылова: вольны пераклад, але дададзена свайго і гэтак упрыгожана, быццам новае; хоць Крылоў браў з Ля Фонтэна, а той з Эзопа, аднак вашыя вершы ім ня уступаюць — гэта мая апінія. А вершы сяньня актуальныя: Мядзьведзь гнуў дугі — гэта — «Стаханаўская работа». Або «Квартэт» — гэта і сяньня, бо ў 4-х не падпісалі міру! І не дайшлі да згоды. «Два сабакі»: справа сужэнства — вельмі скамплікаваная, — жыць супольна або разлучацца? Па моему толькі залежыць ад Бога . . .

Калі мы молімся, тады мы шчасьлівыя і вольныя. Малітва — гэта радасьць і супакой і адпачынак — гэта ўсё добрае! Але баюся філязофіі! Я праканаўся ў сваім жыцьці: нятолькі я веру, што ёсьць душа, але ведаю пра гэта дакладна. На жаль, ня ўсім дадзена ведаць такую таямніцу.

Прачытаю яшчэ раз вашыя вершы, дый напішу больш, бо маё ўражаньне, што трэба чытаць з вялікаю увагаю. Дарагі Настаўнік! Перапрашаю, што можа ня так напісаў. Дзякуй Богу, што маеце сілу. А маё здароўе трохі адваражылася, але ўжо мне лепей і ў нядзелю пайду ў царкву — памалюся і ўсё будзе добра. Прывітаньне ўсім тым, якія мяне ведаюць. Памажы, Божа, ў вашай працы!

*Віктар Жаўнятовіч*

Парыж, 23 сакавіка 1974.

ЧЫКАГО: Да гэтага ліста далучаю 10 даляраў і прашу паведаміць, калі маеца прыбыць у Злуч. Штаты? Дзеля таго, што Сп. П. В. напісаў у газэту «Беларус», як адбылося ў нас Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка, дабаўлю толькі, што ўсё прайшло ў міла-прыемным настрою. На акадэмію прышлі-прыехалі соткі нашых грамадзянаў, нават за шмат міляў аддаленых ад Чыкаго — праваслаўныя і каталікі, з сваімі сьвятарамі, якія і прамаўлялі на акадэміі.

Прыпамінаюцца словы малітвы нашага патрыёта Юркі Віцьбіча, зьмешчаныя ў Зборніку з 1944 г. у Бэрліне: «Найсьвяцейшая Багародзіца Дзева, абарані нашую Радзіму. Ахутай сваей ласкай усіх шчырых беларусаў — і праваслаўных, і каталікоў і тых, што незнайшлі дарогі да Бога! . . ».

Апошнімі днямі адбылася пры нашай царкве распрадажа ўжыванае і няўжыванае вопраткі-адзеньня і многа чаго другога, ахвяраванага для парахвіі. Утаргавана з прадажы тое-сеё.

29-га чэрвеня мае адбыцца 25 гадовы Юбілей Айца Уладзімера Тарасэвіча, які ўжо рассылае запросіны. Спэцыяльна мае быць запрошаны наш Біскуп Чэслаў Сіповіч, з якім і паважаны а. Я. Гэрмановіч добра было б, каб прыбыў.

Далучаю тут вырэзку з газэты, можа Вам прыдасца? Гэта нібы жарт, але й сапраўды, што тых людзей, якія не маюць аўта, або ня ўмеюць ім кіраваць, хоць бы і быў важным прафэсарам, дык усё ж ён не ўважаецца за паважнага Амэрыканца!

З пашанаю *Я. Ч-скі*

Чыкаго, 14. V. 1974.

---

# Галышом па вуліцах

(Дзівацтва!)

«ДУР ці РОЗУМ?» Сам скажы ж!
Ты разьдзеўся, ты — бяжыш:
Босы голы, як зьвер дзікі,
Па ўсім Лёндане Вялікім . . .

Не адзін ты — маеш банду,
А даеш усім каманду:
Дзіва, сьмех і страх паўсюдны
На ўвесь горад, такі людны!

Крыкі, спрэчкі, разгаворы. —
РАДА Лёндану у зборы:
«Што рабіць? Не знаем самі
З маладымі галышамі?»

*І-ы радны:*

Ну, страляць мы іх ня будзем,
Хоць дурныя, але ж — людзі!
Бацькі лаюць, маткі плачуць,
А сынкі, як малпы, скачуць . . .

Турмой, штрафам караць трэба,
Пасадзіць на фунцік хлеба,
Даць яшчэ на дурака
«Кап-оф-ті» без малака! —

*ІІ-і радны:*

Раджу я пісаць пратэст —
Даць гарачы маніфэст
Да грамадзтва, да бацькоў —
Пакрыць ганьбай галышоў!

Каб узбурыўся ўвесь сьвет
Да канца дзьвюх тысяч лет —
На парадак наш такі
Ляжа сорам на вякі! . .

*III-ці радны:*

Не згаджуся я тут з вамі,
Пратэстуйце адны-самі:
Лёндан ведамы з свабоды —
З галышоў ня будзе шкоды.

*Ў С Е :*

Як ня будзе ад злачынства? —
Дый яшчэ з такога сьвінства?! —
Аж ня выйдзе з дому скора
Ні адна жанчына ў горад!.. —

*III-ці радны:*

Эх, вы страшыце дарма,
Бо злачынства тут няма!
Кірмаш толькі ўсім прыдатны
І цікавы і бясплатны.

Дзіва першае на сьвеце,
Як у тэле, ці ў газэце:
Роем кінуцца жанчыны
Бачыць голенькіх мужчынаў!..

Голы, хоць ён і ў бядзе,
Ён нічога не ўкрадзе;
Ані банку не аграбіць
І дзяржавы ён не здрадзіць.

Ні ў карчме ён не нап'ецца:
Толькі так, як мне здаецца,
Між народам пабяжыць,
Каб у хаце ня тужыць.

*

Зашто ж іх маеце караць?
Гнаць у турмы, штрафаваць?
А ну, прабуйце іх лавіць,
Ці на шнурку наўкол вадзіць!..

На сьвеце ўсе карыкатуры
Вас абмалююць у натуры:
Вас дурань абсьмяе ўсялякі,
Што самі вы накшталт сабакі!

Няхай жа мерзнуць, волю меўшы,
А летам добра прыпацеўшы:
Пазвольце гальшом дурыцца,
Мо' будуць пасьле лепш вучыцца?

Бо так з нудой падручку ходзяць,
Начамі-днямі стогнуць-бродзяць,
Наркотыкі грызуць бяздзейна, —
Псуюць паветра безнадзейна...

*СТАРШЫ МЭР:*

Што ж? Лёрд, — наш трэці дэлегат,
Натаманіліў нам досыць шмат —
Аж сам я проста зьбіўся з толку —
Згубіў я нітку дый іголку. —

На гэту новую дзюру
Я пастановы не бяру:
Даю вам месяцы два-тры:
Разваж, лёрд, пасьле гавары!

Так, галышоў лавіць ня будзем,
А справу кінем ці забудзем:
Галоўкай ў мур ня трэба біцца, —
Мо' ўсё само ў нас разьляніцца?..

*IV-ы радны:*

Вы песьню добра адсьпявалі,
А вось мяне й не запыталі!
А я сказаў бы вам такое,
Што закруцілі б галавою... —

*СТАРШЫ МЭР:*

Ну-ну, скажы, лёрд, пачакаем! —

*Ў С Е :*

Скажы, скажы — хвілінку маем...

*IV-ы радны:*

Тут справа зьвязана з душою. —
Што скажуць біскупы на тое?
Рамсэй-лёрд, біскуп урадовы
І Гінан, кардынал талковы? —

*Ў С Е :*

Ах, Гінан добра нездаровы!

*СТАРШЫ МЭР:*

Што могуць біскупы дадаць?
Каб з галышоў мо' скуру драць?..
Да працы й да грахоў лянівы:
Прад Богам — грэх, а ў пекла дзіва.

*3-ці радны:*

На конт вам Бібліі скажу —
Загадку лёгка разьвяжу:
У раі Бог стварыў быў голых —
Шчасьцівых, добрых і вясёлых. —

А пасьле чорт, як стаў глядзецца,
Дык трэ' было людзям адзецца.
Мы дагадацца толькі можам,
Ці быў адзетак ў пляне Божым?

Хрыстос апосталаў паставіў:
Адзетку новага не справіў:
Што мелі, дык у тым пашлі,
Пакуль што новае знайшлі.

Быў Новы Запавет такі:
Апосталы, як рыбакі,
Ня мелі грошаў й анічога,
А Духа мелі ўсе Сьвятога!

Цяпер сьвятар у храме Божым
Кладзе ўсё сьветлае, прыгожа;
А на людзях і ў доме ўласным
У чорным ходзіць, доўгім, страшным.

Усюды можна гэта бачыць,
А я не знаю, што то значыць?..

*

«Наконт бязбожнікаў скажу я —
Такі парадак там пануе:
Маркс, Энгельс рай перш абяцалі,
А Ленін, Сталін так схавалі.

Што рай быў цёмны і халодны,
А людзі голыя — галодны;
Але ў камуне як прыбіты
І ўрад сьлязой людзкой ня сыты!..».

*ЛЕНІН казаў:*

«Галодны й голы чалавек
Паслушны будзе цэлы век:
Працуў ты дзень і ноч і ў сьвята —
Шчасьлівы будзеш жыць багата!»

Хоць ты ня шмат у нас заробіш,
А рэвалюцыі ня зробіш, —
Затое згодны, дружны, стройны
Хоць голы-босы дый спакойны...

Аж у калгасе кажна баба,
Хоць квокча, як у квасе жаба, —
Галодная, хоць і старая,
Аднак камуну падтрымае!

Мужык працуе з цэлай моцы
Ад раньня аж да цёмнай ночы:
Хоць ён да сьмерці так пацее, —
На ім камуны ўся надзея!

«Ці ў недастатках, ці лямэнтах,
Паб'ём Амэрыку ў працэнтах.
Хоць і на месяц мы ня ўлезьлі,
Але ў Саветах мы ня шчэзьлі!

Хоць мы ў тэхніцы на задзе,
Купляем збожжа мы ў Канадзе,
Хоць мы й Амэрыкі не зналі,
Але Хрушча ўсё ж прагналі!

А сьвет так скроены для нас,
Што для камуны ён якраз:
Буржуйскі строй, хоць добра йдзе,
А трэсьне ён і прападзе!

Маркс-Ленін, так як чорт з хвастом,
Вайну вядзе з Самым Хрыстом —
Аж перамог і скрозь бязбожжа
Як град паб'е найлепша збожжа!

І атэісты будуць рады,
Скасуюць Пасху і Каляды,
А замест цэркваў і касьцёлаў
Паўстануць турмы голаў-у-голаў!

А людзі вольныя і голы
Ня змогуць так хадзіць ў касьцёлы:
Няхай сабе народ галодны,
А будзе вольны і свабодны!

Мы маем смак да прапаганды:
Іх на рэкляме намалюе
Дый у чырвона ўсіх абуе...
А камунізм апране банды:

Пашлём паэтаў самых хвацкіх
У самы лепшы дом вар'яцкі:
Такі парадак мы ўжо знаем —
Ах назовём «Савецкім Раем».

Грамыка сьмешыць цэлы сьвет:
За Кісінгерам сьлед-у-сьлед
Паўзець як смоўж, як жаба, зьмей —
Пры сваей мудрасьці усей...

*«Гонар»* на носе запішы,
Хоць мы, як трэба, га-лы-шы!
Масква паклон дала і бусі
За бульбу Цётцы-Беларусі

Затое веру адбірае —
Храмому чорту памагае!..

*В. Адв.*

# Думкі з кніжак

Сацыялізм — гэта хрысьціянства бяз Бога. Рэлігія — фундамэнтальны камень-аснова культуры ў людзкім грамадзтве.

Калі хацелі людзі будаваць грамадзтва бяз рэлігіі, дык не змаглі, а толькі паказалі абразкі зьвярынае звалкі.

Сацыялізм змагаўся з рэлігіяй, з нацыяналізмам, з патрыятызмам, бо яны мяшалі людзкому шчасьцю. Аднак людзі, якіх сацыялізм звольніў ад рэлігіі, аказаліся ня людзьмі, а краважэрнымі, драпежнымі зьвярамі, небясьпечнымі для ўсялякага людзкога грамадзтва. Пазбаўленыя лучнасьці з Богам, гэтыя людзі атупелі і маральна і ў сваім розуме. Яны пачуліся пакінутымі плывунамі ў бязьмежным моры, бяз ніякага апорышча, абнятымі вечным страхам поўнае пагібелі. Лозунгі (сацыялізму-камунізму) гаварылі аб агульным брацтве і роўнасьці; а, па праўдзе, кожны камуністы дзеіў паводле прынцыпу: «Кожны для сябе, рві, што можаш і дзе можаш!». Ніколі край не спаскудзіўся такой колькасьцяй злачынства, лгарства, здрады, нізкасьці, бяздушнасьці, як у год рэвалюцыі.

Дурны быў урад старога строю, але бальшавіцкі аказаўся з гэтага пункту гледжаньня яшчэ горшым.

(З кнігі «Из глубины», бач. 201»)

# ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

Пішуць, што строгі дыктатар і вялізны атэіст *Ленін* быў выдатным «набожным» чалавекам. Перад рэвалюцыяй 1917 г. ён жыў доўгі час у Нямеччыне і аднойчы ў готэлі нейкі афіцыянт падгледзіў Леніна ў спэцыфічным «набажэнстве»: ён адбіваў зямныя паклоны! Ну, й немцы склонныя былі асудзіць яго ў сапраўднай рэлігійнай набожнасьці, якую практыкуе сакрэтна... Аказваецца, што бязбожнік прызнаў зямныя паклоны найлепшым тыпам гімнастыкі, якую практыкаваў у працягу жыцьця, даючы па дзвццаць паклонаў!..

*

*САКРАТ ЯНОВІЧ:* Зборнік твораў — «ЗАГОНЫ». Кніжка выданая ў Беластоку ў Народнай Польшчы — выдала «Беларускае Аб'яднаньне „Белавежа"» у 1969 г., бачын 286. Апавяданьні і абразкі, замалёўкі, і аповесьці. Польскі крытык кажа: «Ударыла сьвежасьць позірку і пагляду?». Называе яго паэтам, які піша прозай: гэта праўдзіва. «А ён, — кажа крытык, — паэт народны і ягоныя расказы пераходзяць у повесьць — набіраюць такого характару».

Наагул у цяперашняй польскай літаратуры перакладаў з беларускага набіраецца нямала; а ў гэтым зборніку, выбраным з розных выданьняў Сакрата Яновіча, аж дзевяць перакладчыкаў, пераважна з беларускімі фаміліямі!

*

*З ГАЗЭТ:* Над ракой Одрай зьляцелася тысячы лебедзяў і іншых водных птушак, як качкі, гусі, пэркозы. Вучоныя польскія дзівяцца, бо ніколі тут падобнага зьлёту ня бывала, аднак не маглі прычыны высьледзіць, бо воднаплаўныя па польску не гавораць; а лебедзі сьпяваюць пад матывы украінскія, гусі — пад беларускія, качкі — пад галяндскія, пэркозы, здаецца, пад чэскі?..

*

Лежакі для катоў, а буды для сабак, спэцыяльныя і дагодныя, вырабляюць з ракітных дубчыкаў майстры над ракой Санам, а стуль выпісываюць за добрыя грошы аматары з Швайцарыі, Англіі, Францыі, Канады, Італіі, Амэрыкі, Скандынавіі...

---

## ВАЖНЫЯ ДУМКІ ВЫДАТНЫХ ЛЮДЗЕЙ

ПАНІНІ: Тыя, што кахаюцца сапраўды, гавораць сабе ўсю праўду, не баючыся і проста.

Герой, на большы сорам лякаём, ёсьць героям нават у начной кашулі.

Паэт, які быў бы здаволены гэтым сьветам, — ён не паэт.

Усе паэты, асабліва хрысьціянскія, адчувалі вечную патрэбу уцячы з дачаснага сьвету і стварыць мастацтвам сваім уласны сьвет.

Трудная справа сапраўды любіць людзей.

Хто летні для Бога, будзе для людзей як лёд.

Людзі павінны сабе заслужыць на неба, жывучы на зямлі.

Дачаснае жыцьцё трывае коратка; яно ёсьць у сваей істоце цьвёрдым экзаменам, які трэба вытрымаць.

Блізка што ўсе людзі ведаюць, што ёсьць дабро і што — зло, аднак большая іх частка ня здольная да дабра, але гразьне ў зьле.

*

Т. МЭРТОН: Я — пышны і дрэнны, бо я — звычайны чалавек. Мы мусім быць прыгатаваны на тое, што амаль увесь час будзем мыляцца (блудзіць).

Найбольшае зло будзе там, дзе папсавалася найбольшае дабро.

Бог ёсьць чысты і таму ня трымае пташак у клетцы.

Бог вышэй важыць аднаго справядлівага, чым увесь бязбожны сьвет. Бог ёсьць справядлівы і прававерны і выпаўняе волю сваіх слугаў.

*

ПАНІ ДЭ ЛЯ САЛЬЕР: Я разбазарыла свой дом, затрымаўшы толькі сабаку, ката і Ля Фонтэна.

*

І. ПРАНДОЎСКІ: Ранны, хуткі разгалос бывае асабліва забойчым для пісьменніка.

Сіла характару пазнаецца барджэй у паводзінах, чым у нядолі.

СОЛЖЭНІЦЫН: Хлапец расказвае: «Кожны чэсны чалавек павінен трапіць у турму. Цяпер тата сядзіць, а выраслу я — й мяне пасадзяць!» (Яму было 14 гадоў, але пасадзілі яго толькі, як меў 23 гады).

Таня Хадкевіч гаворыць: «Маліцца можаш свабодна, але толькі, каб пачуў адзін Бог». Так ёй сказалі, бо яна за адзін верш (рэлігійны) дастала 10 гадоў.

«Быў бы чалавек, а дзела састрапаем!» (Асудзяць!).

Старога сабаку да ланцута ня прывучыш.

Судзьдзя гаворыць: «Што ж гэта за гонар — стаяць за праўду? А ты вось за праўду пасядзі!».

Адзін рэвалюцыянэр, які сам папаў пад суд, казаў: «Перш, чым брацца за рэвалюцыю, трэба было у краі вывесьці плюскваў!».

«На нет суда нет», а ёсьць «Особое Совещание».

# Байка аб „Байках“

(II Аўто-рэкляма)

*Раз сабраліся зьвяры —*
*Не па два, ані па тры,*
*Але шумнай грамадой*
*На мітынг паміж сабой.*

*Ім не важна піць ці есьці,*
*А стараліся прысесьці —*
*Зрабіць наглую расправу —*
*Бунт, налёт або аблаву*
*На старога Вінцука!*

*«Яго дзёрская рука*
*Пяцьдзесят гадоў пацела —*
*Наскрабала кнігу сьмела —*
*Баяк, крытык, (бачыць кажны),*
*Ён — Вінцук і ён — Адважны!».*

*Перш в а р о н а кажа: «Будзем*
*Гамоніць мы, так як людзі;*
*Свой пратэст кладу на вагу,*
*А я маю ў вас павагу,*
*Хоць я кніжкі ня чытала, —*
*Каб яна на век прапала!»*

*Посьле выступіў с а б а к а —*
*Злы як воўк, як забіяка, —*
*Брахаў рознымі ладамі,*
*Скрыгатаў, скрыпеў зубамі:*
*«Вінцука я, каб прымеў бы,*
*Рваў бы на кускі — аж зьеў бы! —*

*А б а р а н , зьвер асьцярожны,*
*Як у іхным родзе кожны,*
*Казаў: «Піша Вінцук сьмела, —*
*„Бэ і мэ!“ — такое дзела, —*
*Стан зьвярыны баламуціць —*
*Дурань — розуму нас вучыць,*
*Хоць яго ніхто ня просіць,*
*Свайго маем больш, чым досыць».*

*

*З ь в я р ы дружна, дужа жвава*
*Барану давалі «Брава!».*
*П е в е н ь крыкнуў рэзва й шумна:*
*«Пан-баран сказаў разумна!».*

*І н д ы к (мудры ён з натуры),*
*Кажа: «Ў кніжцы тон пануры:*
*Яна поўная трагізму —*
*Нас вядзе да пэсымізму». —*

*Аж м я д з ь в е д з ь, дасюль маўклівы,*
*Стаў, на дзіва, гаманлівы*
*Кажа: «Кніжку дарма лаем, —*
*Дайце, байкі прачытаем!».*

*Стаў чытаць: сьпярша спакойна.*
*Рэч лілася мягка, стройна.*

*Мядзьведзь лапамі махае,*
*Барадой сваей ківае, —*
*Як закружыць між зьвярамі, —*
*Аж танцуе ў такт часамі!*

*Мядзьведзя ўсе абступілі,*
*Рагаталі, брава білі. —*
*Пастанову бралі ясну:*

*«К о ж н ы к у п і ц ь*
*кніжку ўласну!».*

Лёндан, 11. IV. 1974.

В. А.

*ПРЫСЛОЎІ І ПРЫМАЎКІ*

*Без надзеі на Бога людзі — не памога.*
*Без нажа мяне зарэзаў, без агню спаліў.*
*Без начыньня й лапця не сплящеш.*
*Без падпалу дровы не гараць.*
*Без пастуха ў стаду няма ладу.*
*Без пачатку канца ня будзе.*
*Без языка і звон нямы.*
*Бела мыецца, да нячыста ходзіць.*
*Бела ці ня бела, абы на ваду пагглядзела.*
*Белена, але ёсьці ня велена.*
*Белы сьвет, што макаў цьвет.*
*Белы, як засланка (іронія).*

(Зборнік Л. Г.)

*Чорта хрэстом аджэнеш, а ад ліхога чалавека не адхрысьціўшся, не адмолішся.*
*З адвароту-закалоту хлеба не зьясі.*
*Каму акалець, той і ў Пятроўку зьмерзьне.*
*Ажаніўся — пракпіўся, жонка памерла — выкпіўся.*
*Бабы не перагаворыш, а сабакі не перабрэшэш.*
*Прыйшоў хтось, узяў штось, да-й пашоў кудысь: пашоўбы я за ім, да не знаю за кім.*
*Дай, Божа, у добры час гаварыць, а ў ліхі маўчаць.*
*Зь верху сух, а ў сярэдзіне чортаў дух.*
*Дурня ў царкве б'юць.*
*Няхай Бог крые ад дурнога друга!*
*Дай дзіцяці волю, то сам пойдзеш у няволю.*
*Як дзіця падае, то анёл падушку падложыць; а як стары апатыкнецца, то чорт ражна падставіць.*

(Культура з Палеся. Ч. Р-віч)

*Язэп Гэрмановіч*

# Учора — сягодня — заўтра

(Успаміны)

## IV. ПАСТУХ: ПРЫРОДА — НЕБА Й ЗЯМЛЯ

Ад самых малых гадоў я вельмі цікавіўся зьявішчамі на небе і на зямлі. Пакуль мы жылі на Трабскай вуліцы ля берагу рэчкі Гальшанкі-Жыгянкі, дык на ёй млын, мост і стаў — вялізны, заросшы аерам і воднымі ліліямі, белымі і жоўтымі, — вечна шумячая вада з пад двух колаў, розны народ ля млына — усё гэта ажыўляла наваколье і адбілася жывымі ў мяне успамінамі.

Вада ў быстрай рэчцы была чыстая і празрыстая, дно пясочнае, сьветла-жоўтае, а прытым маса рознай рыбы й рыбіны, ідэальнае купаньне для вялікіх, малых і найменшых — таксама сталася памятнае мне на ўсё жыцьцё.

Вада была сапраўды жывая і рухомая, павольная ў ставе, а шыбкая у сплыве, што для нас, малых, замяняла цяперашнюю тэлевізію, тэатр, кіно і панараму! А зімой на рэчцы — коўзанка: санкі, на якіх зьяжджалася на ўсім працягу ня доўгай вуліцы — аж да самага ставу, дзе была палонка на ваду. Як біліся сьнежкамі, дык заганялі слабейшых аж да ставу ці на млына. Дый яшчэ трэ' успомніць: як адчыняў мельнік застаўку на лішнюю ваду і спускаў збытак, дык гэта была роскаш усім купальшчыкам, бо голенькім сядалася на струмень вады й звалівалася з вадой у спуск, куляючыся і сьмяючыся! А якое відовішча, калі гуляла сонейка адбівалася ў спуску вады, як вясёлка, як маланка, ў тысячах люстэрак вадіцы!

А ўспомніць прасторы лугоў за ракою, шырокія нівы жыта, аўса і іншае збажыны. Далей ішоў лес «Горкі» і вялізарны бор у напрамку м-ка Трабаў дый Ашмяны . . .

І неба лучылася з вадою, — адбівалася гарманійна раніцай ці пад вечар, калі ў пагоду бачыўся маестатычны касьцёл і мястэчка на прыродным фото ў вадзе Гальшанскага ставу. Перш адсьвечваліся вольхі і цудоўны маладзы бярэзьнік з татарскага фальварку.

Дарожка між млыном вуліцы Трабскай і другім млыном на вуліцы Вішнеўскай (Замковай) была пагулянкай першае клясы! Бо рэчка то хавалася у зарасьлях, то выскаквала на від і блеск сонейка, то фатаграфавала сасоннікі, растушчыя на узвышшы і на узорках, а прытым рабіла неспадзяваныя згібы і петлі або затокі — гэта праймаючая паэзія у прыродзе! Бывала ідзеш доўга, але ніколі не справішся з бегам вады і з працягам ракі, якая гіне ў далячыні, плывучы праз Багданава, Вішнева і ў прасторы Налібоцкае пушчы, каб дагнаць бойкую Бярэзінку і разам зь ёю упасьці ў магутны Нёман!

Гальшанка кіравалася на паўдзен, а недалёка Ашмянка наадварот паплыла на поўнач да Віліі, каб зь ёй спаткацца з Гальшанкай у водах Нёмана. Між гэтымі нашымі рэчкамі праходзіў вададаразьдзел, што называлі «Ашмянскі горб» і ад яго пачыналіся рэчкі Ашмяншчыны. Вазёр у нас ня было аж да ланцугоў азёр Троцкага і Сьвенцянскага раёну. І я ня быў прывычны да вазёр і баяўся ў іх купацца — ажно вельмі ўпадабаў слаўнае возера на поўнач ад Вільні «Корве», дзе навучыўся кіраваць лодкай, веславаць і на канькох шмыгаць на ўсю ягоную даўжыню!

Другое возера, што я бліжэй пазнаў — гэта Троцкае, якое раскідаючы свае рукавы, творыць замковы востраў і абгінае горад Трокі. Яно ёсьць чаруючай пэрлай ўсяго краю! Ня дзіва, што на нашай зямлі нарадзіліся два выдатныя паэты-лірыкі і абодвы Міцкевічы: Адам, які, на жаль, пісаў толькі па польску і Кастусь (Якуб Колас). Абодвы сталіся паэтамі сусьветнае вартасьці. Значыць, нашая прырода мае бяз сумніву вартасьць сусьветнага характару. Каб яе не марнавалі камуністы сваімі вар'яцкімі эксперымэнтамі, дык яна дала б народу і даволі хлеба, бульбы і ўсяго, а тым важней багацьцямі выкапнёвымі і вартасьцямі духа! Тут нарадзілася б больш цудоўных паэтаў, мастакоў, артыстаў і філязофаў . . .

Калі Трабская вуліца спускалася ў даліну да рэчкі, дык Барунская падыймалася на гару і вяла да пасьбішча-выгану, на якім расейскае войска, што займала кляштар Францішканаў, адбывала свае муштры, вучэньне і манэўры. А ў двух вёрстах ад мястэчка падыймалася гара «Гарадзішча», дзе стаяў калісьці замак князёў Гольшаў. Гэта было другое ідэальнае месца для пагулянак-спацыраў і экскурсіяў. Тут ужо ня было збытку вады, як на другіх вуліцах, Ашманскай і Замковай, якія канчаліся млынамі і былі пэразэня трама ручэямі. Ручэй Барунскай вуліцы, багаты вадою, выплываў воддаль Гарадзішча і праразаў лугі ўздоўж ўсяе вуліцы. Які ён быў вартасны для вуліцы, можна судзіць з таго, што быў абсаджаны вольхамі ў два рады — аж пакуль Барунская перадала яго вуліцы Ашмянскай! Тады ён хуценька, перарэзаўшы Сьвіньны (Кляшторны ці Казарменны) перавулак, упадаў у Гальшанку.

Найглыбейшае ўражаньне асталося ў мяне ад навальніцаў, бураў, а і ад грому, маланкі і пяруноў! Мы, малыя, абавязкава жагналіся, як

засьвеціць маланка; а як удараў пярун, тады біліся ў грудзі — ня так гэта выходзіла ад набожнасьці, як ад страху... Аднойчы на пашы, гонячы быдла дамоў, я адзінокі знайшоўся на ўзвышшы: дождж ліў як зь вядра, а пяруны білі па наўкольных узгорках; а трэба было абавязкава ісьці за быдлам, якога неўгдзе было затрымаць. Ніколі датуль не здаралася мне перажыць гэтулькі грому і сілы грому і такога акружэньня вялізных, густых і нізкіх хмараў! Мне здавалася, што б'юць вось-вось у мяне. І я пераражываў навалу адзінюсенькі! Не магу апісаць таго жудаснага страху і, відаць, што Бог мяне шкадаваў, бо я не адчуваў пасьля ніякага благога выніку ў сэрцы і ў душы!

Не магу таксама забыцца, што на Ашмянскай вуліцы такія грозныя хмары наступалі з Ашмяны: найперш падыймаўся віхор, які замятаў усю вуліцу. Пасьля дождж пачынаў капаць буйнымі кроплямі, рэдкімі і цяжкімі; а гром набліжаўся і ўзмагаўся. Нарэшце наступала самая цэнтральная бура з пярунамі, што калыхалі хату! Затое якая была радасьць, калі канчалася немарасьць і паказвалася сонейка, даючы вельмі ажыўляючыю вясёлку. Ня ведаю, чаму цяпер і хмары блудзяць лягчэйшыя, і маланка бывае рэдка дый гром цішэйшы? А ўжо ж вясёлкі тут ня бывае зусім: ледзь мажа пару разоў я яе бачыў дый то худую, як сухотніцу...

Зімою затое бывала сьнягі ападаюць рэгулярныя — глыбокія й трываюць цэлую зіму: адліга іх як прыб'е, дык становяцца яшчэ трывальшыя. А саначкі — роскаш! І месцы у нас бывалі складныя, бо навакол узвышша, дык знайсьці дагоднае месца для спуску ня трудна. Дый зімою калёс не зналі, а падарож санкамі — самая дагодная і прыемная. Дый толькі аднойчы на усё маё жыцьцё, я быў у небяспецы падчас дарогі з Ашмяны ў Гальшаны з Гарадзкога вучылішча. Вёз мяне і майго таварыша, Яна мой дзядзька Пётра Савіцкі. Выяжджалі мы з Ашмяны ўжо добра пад вечар. Быў я добры абсэрватар: заўважыў, што вее добрая завяруха і шугае сьнегам, а вострыі вецер вее нам у вочы. Прытым мароз моцны і мацнее яшчэ больш. Кабылка ў дзядзькі добрая і моцная, значыцць, у нармальных варунках даехаць нам — 20 вёрст —няма чаго баяцца. Але ў гэты вечар жартаў няма! Я ўжо загадзя баяўся і меркаваў па дарозе, колькі мы праехалі і колькі асталося, бо дарогу я знаў як пяць пальцаў! Цэлая рэкраацыя было тое, што стаялі па дарозе тэлеграфныя слупы. Паміма ветру кабылка бегла рэзва і вытрывала, але я ўсё ж баяўся...

Адзетыя мы былі дастаткова, але дзядзьку было горш тым, што ён трымаў лейцы і мусіў уважаць на дарогу, каб аб'яжджаць губры, якія фармаваліся наваччу. Я ўважаў пад канец дарогі, што кабыла вельмі змучылася, бо вецер увесь час быў у вочы, а пасьля пачаў задуваць зь левага боку. Нарэшце кабыла так змучылася, што проста асьлепла і накіравалася направа, каб пайсьці зь ветрам... Мы ўпалі ў канаву, але ня глыбока і выехалі на гладзейшы шлях. Я спачатку не зьмеркаваў, што мы зышлі з дарогі, але зараз пачаў глядзець уважліва і закрычаў: «Дзядзька, мы дрэнна едзем!». «Маўчы!» — адказаў ён. «Якое дрэнна?». А я цьвярджу сваё: «Дрэнна! Бо дзе слупы тэлеграфныя?». — Тут ужо і дзядзька спужаўся, бо мы сапраўды зышлі з гасьцінца на поле. А ён не знаў, куды кіраваць? На шчасьце я добра знаў тое месца, бо ўжо было вярсты тры да мястэчка і я пасьвіў тут быдла летам, дык я кажу: «Вярні на лева!». Так мы вярнуліся і знайшлі гасьцінец, бо інакш мы паехалі б у кірунку ракі — па далінах-горах і маглі б згінуць. Не прайшло шмат часу, як мы ўжо даехалі да хаты на гэтай самай Ашмянскай вуліцы. А мой таварыш, Янка Варсоцкі, аніразу ні пісьнуў, як бы яго справа й не датычыла, хоць і ён быў у небясьпецы разам з намі... — Так Бог нас ратаваў, што я магу спакойна апісаць інцыдэнт, які так мне добра запамятаўся!

Сьнягі наагул бывалі такія багатыя, што нашая (цётчына) хата бывала рубяжом, што затрымліваў мяцеліцу і аднойчы так надало, што падарожнікі мусілі затрымлівацца з найлепшымі коньмі і заходзіць да нас, каб раскапаць горбу сьнегу. Затрываўся тады і вялікі пан Ягмін, гаспадар замку, што ехаў бойкай парай коняў. Сапраўды быў «вялікі» і фігурай і павагай дый зь вялікага панства нават ня ўмеў па просту гаварыць, але высокім тонам і па расейску! Раптам, убачыўшы робленыя рукавіцы, якія ў Гальшанах рабілі на продаж, Ягмін сказаў: «Ну, хорошо, сколько хотите за пару?». Узяў адну гатовую і прымерыў на руку. Нашыя жанчыны, мая матка і цётка, не паважыліся назначыць цаны, а сказалі: «Колькі, пан, сам дасьць?». — Тут узьнікла труднасьць, бо пан не хацеў у думках ні пераплаціць, ні не даплаціць. І бабы таксама баяліся запрасіць лішняе, ці аддаць танней. Так абеедзьве староны змоўклі і абдумвалі справу. Трывала гэта мінутку, аднак кажны думаў аб думках другой стараны. Нарэшце пан заплаціў па сваей думцы, узлажыў рукавіцы на рукі і выйшоў, бо сьнег ужо быў пракапаны. А нашыя жанчыны загаманілі: крыху пасудзілі, што «слаба ж ён адплаціўся; але згадзіліся з сабой, што ён нас не пакрыўдзіў.

Наагул Беларусь ня мела такіх суровых зімаў, як цэнтральная Расея і асабліва, як Сібір; ані такіх бураў, як Амэрыка, ані такой сушы, як Украіна ці Надволжа Бывалі гады паўталодныя, але поўнага голаду ў нас не здаралася. Толькі помню адзін год, што ў Савіцкіх забракавала вясной хлеба; аднак калі ўсе паселі на бульбу, дык аніяк яе ня пераелі да новае! А дагледжанае варыва заўсёды давала добрыя ураджаі, асабліва капуста. .

Да зьяваў у прыродзе — асаблівых, якія мне помняцца, мушу залічыць наступныя: 1) 24-га чэрвня, у дзень Сьв. Яна, раненька мяне разбудзілі нагла: «Хутчэй устань: сонца кіпіць!». Я саскочыў з пасьцелі на двор і ўбачыў, што сапраўды сонца перлівалася так, што можна было, ня плюшчачы вачэй, глядзець на яго — аж было ўражаньне, што кіпіць-пераліваецца!.. Пасьля казалі людзі, што на Яна гэта з сонцам бывае. Аднак ніколі больш нічога падобнага я на сонцы не бачыў. А здарылася гэта, як я вылічаю, у 1900 годзе.

2) Здаецца, што якраз у гэтым самым леце прайшла ўночы такая бура ў вёрстах трох ад Гальшан, што будучы на пашы я здалёку бачыў паложаную ветрам лясную дзялянку, ня вельмі шырокую, але доўгую: маладыя сосны лежалі на ёй зламаныя ў рост чалавека, такія прыгожыя і роўныя — аж мне зрабілася шкода бедных дрэваў!..

3) У 1904, калі не памыляюся у гадах, я хадзіў у працэсіі з Гальшан у Вішнева (17 вёрст). Гэта был о2. VII. на фэст Божае Маці і бачыў я сам, што пярун пабіў тэлеграфныя слупы пад самымі Гальшанамі на гэтым тракце: на працягу 3-х вёрст былі пашкоджаныя падрад усе слупы — кажны іншым спосабам. Адны ляжалі, другія былі пашчэпляныя, а некаторыя ледзь мелі саструганыя ліштвы, ці шчыліны, але абсалютна ацалеўшых ня было ніводнага!

4) Каля 1906 г. на рацэ здарылася вясной добрая паводка, так што лёдам у хвілінку зьнясло добры мост на Трабскай вуліцы; але млын ацалеў і мост пабудавалі лепшы і мацнейшы, умацавалі грэблю дый крыху абсушылі балота, якое лежала між млыном і хатай Савіцкіх. Балота мела славу, што было здаўнае і называлі яго «Пеклам»: таму і млын зваўся «Пад Пеклам». Але адзін безьзямельны папрасіў пазваленьне паставіць там хату. Добра! Пазволілі і ён навёз замлі і вывеў зусім моцную будыніну. Толькі ж усе наўкола дзівіліся: «Як ён будзе жыць у самым Пекле?». Але нічога яму й не сталася.

Вось і ўсе з маей памяці асаблівыя зьявішчы прыроды на Гальшанскім навакольлі. Але 1-ая вайна мела спаленыя будынкі праз расейскае войска, як уцякала ад немцаў: проста з дуру, бо ніякага тут бою ня было! Згарэлі будынкі толькі на Ашмянскай вуліцы, ад канца да палавіны вуліцы. У тым ліку згарэў дом удавы Трэцячыхі, маей цёткі, у якім і мы жылі (у 1915 г.). Змарнавалася ўсё нашае дабро і Трэцячыха сама мусіла шукаць сабе кватэры. Посьле Марыя Трэцячыха збудавала маленькую хатку, з помачай брата Пётры Савіцкага; але мая матка і сястра Людвіня ўжо з Марыяй жыць не змаглі ў той халупінцы... А 1-ая вайна затрымалася ў 10 вёрстаі ад Гальшан.

*(Працяг будзе)*

**ПАМЫЛКІ ДРУКУ**

**«Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства»**

**час. «Божым Шляхам», № 1/139**

| Балонка | № зноскі ці радок шпальты | Надрукавана | Трэба |
|---|---|---|---|
| 3 | зн. 14 | 1463 | 1634 |
| 5 | 24 радок зьнізу правай шпальты | ў біліятэку | ў бібліятэку |
| 7 | зн. 78 | Рукапісны | Рукапісныя |
| 7 | 7 радок зьверху правай шпальты | XV пач. XVI ст. ст. | XV — пач. XVI ст. ст. |
| 7 | зн. 83 | Даўгла | Даўтяла |
| 7 | зн. 84 | siejmowe | sejmowe |
| 8 | зн. 93 | slownik | słownik |
| 8 | 12 радок зьверху правай шпальты | I. | Із |
| 8 | зн. 101 | Иконниковъ,ъ | Иконниковъ, |
| 8 | зн. 101 | Historycznej, t. II, | Historycznej, t. 11, |

## ЗЬМЕСТ:




Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14